Літ
Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№1 (4647) 6 студзеня 2012 г.

У нумары:



# Віншаванне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праваслаўным хрысціянам

*Дарагія суайчыннікі!*

*Віншую вас з Нараджэннем Хрыстовым.*

*Мінаюць тысячагоддзі, але вялікая ўрачыстасць святой ночы, як і раней, прыносіць радасць мільёнам людзей, яднае іх вакол значных і высакародных мэт. Віфлеемская зорка асвятляе шлях для міласэрнасці і дабрыні, любові і надзей на будучыню, у якой пануюць узаемаразуменне і дабрабыт.*

*Нараджэнне Хрыстова — сямейнае свята, якое сустракаюць з роднымі і блізкімі, атуленыя іх пяшчотай і клопатам. Беражлівае захоўванне яго традыцый працягвае нябачную сувязь пакаленняў.*

*Няхай гэтыя светлыя дні напаўняюць нас чыстымі памкненнямі і натхняюць на праведныя ўчынкі, дораць цеплыню і добры настрой, азараюць верай і ўмацоўваюць духоўныя і маральныя асновы. Няхай дастатак, давер і лад пануюць у кожнай сям'і.*

*Шчыра жадаю вам здароўя, шчасця, міру і поспехаў ва ўсіх справах.*

**Аляксандр Лукашэнка**




*Фота Кастуся Дробава*
*Калаж Віктара Калініна*

Калонка рэдактара

## Калі ўсе мы разам?..

**Таццяна СІВЕЦ**

У калядныя дні хочацца часцей прыгадваць славутае Багдановічава: “Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?..” Але чаму ж тады няма згоды паміж людзьмі ў свеце, чаму не могуць часам дамовіцца нават тыя, каму, здаецца, няма чаго дзяліць?

Савецкая песня прапаноўвала думаць “раней пра Радзіму, пасля — пра сябе”. Нехта можа абурыцца: “Што дала мне Радзіма, чаму я мушу ахвяраваць нечым асабістым на яе карысць?” Самае цяжкае ў жыцці, напэўна, выйсці за межы, якія сам сабе вызначыў, паспрабаваць тое, чаго ніколі не рабіў. Я прапаную вам просты псіхалагічны тэст: вазьміце чысты аркуш паперы, намалюйце на ім круг і пастаўце кропку — дзе захочаце!.. Зрабілі? Пра вынікі — крыху пасля, а пакуль давайце паспрабуем знайсці адказ на вельмі важнае пытанне: калі ты жывеш у гэтай краіне, калі працуеш на яе, ці мусіш ты “сплачваць” свой доўг перад роднай зямлёй і як гэта зрабіць асобе творчай?..

Многіх прымусіў задумацца мінулы пленум Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, на якім не толькі былі падведзены вынікі Другога з'езда СПБ, акрэслены задачы дзейнасці творчай арганізацыі па выніках сустрэчы пісьменнікаў з Прэзідэнтам ды вырашаны пэўныя матэрыяльна-кадравыя пытанні, але і сталі відавочнымі некаторыя “праблемы росту”. Да прыкладу, няздольнасць часам паразумецца, узняцца над дробнымі ўнутранымі канфліктамі, крыўдамі і зайздрасцю, каб адрадзіць вобраз Творцы, які будзе ўзорам, да думкі якога будуць прыслухоўвацца, з меркаваннямі лічыцца. А каб паверылі чытачы, пісьменніку трэба, перш за ўсё, вызначыцца, што для яго важней — колькасць уласных кніжак ці тое, каб айчыннае пісьменства не знікла і праз стагоддзі...

План мерапрыемстваў па выкананні даручэнняў Кіраўніка нашай краіны быў агучаны на Пленуме. У ім — усё, пра што мы клапаціліся і марылі. Дзяржава зрабіла крок насустрач пісьменнікам. Год кнігі — яшчэ адна нагода, каб успомніць пра айчынную літаратуру і яе стваральнікаў!

А пра кропку... Яна паказвае, якое месца вы адводзіце сабе ў гэтым свеце: унутры кола ці па-за ім. Кажуць, Напалеон перавярнуў лісток і паставіў сваю кропку з адваротнага боку...

Вырашаць, на якім ты баку, аднойчы давядзецца кожнаму.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ “Аб абвяшчэнні 2012 года Годам кнігі”. Такое рашэнне прынята ў мэтах павышэння ролі кнігі і чытання ў сучасным грамадстве, выхавання ў маладога пакалення любові да мастацкага слова, развіцця айчыннай літаратуры, забеспячэння дзяржаўнай падтрымкі нацыянальнага кнігавыдавецтва.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні медалём Францыска Скарыны загадчыка кафедры філасофіі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Уладзіміра Лукашэвіча. Ганаровае званне заслужанага работніка адукацыі Беларусі нададзена рэктару Беларуска-Расійскага ўніверсітэта Ігару Сазонаву і Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Уладзіміру Шымаву.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгія Марчука з 65-годдзем. “Вашы творы вывучаюць у школах і вышэйшых навучальных установах, некаторыя з іх перакладзены на мовы народаў свету, спектаклі па Вашых п’есах на працягу многіх гадоў ідуць на сцэнах тэатраў краіны… Няхай і надалей Ваша плённая дзейнасць будзе такой жа насычанай, нясе людзям інтарэс да кнігі”, — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 75-гадовым юбілеем народных артыстаў РСФСР Анатоля Равіковіча, Эдуарда Марцэвіча, з 80-гадовым юбілеем — народнага артыста СССР Льва Дурава і з 85-годдзем — народнага артыста СССР Юрыя Грыгаровіча. Кіраўнік дзяржавы пажадаў юбілярам доўгіх гадоў жыцця, напоўненых творчасцю, якая садзейнічае развіццю культурных сувязей нашых народаў.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падарыў бібліятэку дзіцяча-юнацкай літаратуры, якая складаецца больш як з 5 тысяч кніг, і неабходнае бібліятэчнае абсталяванне Рэспубліканскай дзіцячай установе медыцынскай рэабілітацыі ў Астрашыцкім Гарадку (Мінскі раён). Дзецям, якія праходзяць лячэнне ў гэтай установе, таксама быў прысвечаны навагодні паказ, у якім па запрашэнні Кіраўніка дзяржавы ўзялі ўдзел артысты Белдзяржцыркa.

✔ Стыпендыі Прэзідэнта Беларусі на 2012 год прызначаны 92 таленавітым маладым навукоўцам. Сярод іх 7 дактароў навук, 59 кандыдатаў навук, 26 маладых навукоўцаў без ступені; 24 прадстаўнікі тэхнічных навук, 19 — медыцынскіх, 35 — прыродазнаўчых і 14 — гуманітарных навук.

✔ Пастановай Савета Міністраў зацверджана Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Італьянскай Рэспублікі аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, падпісанае ў г. Трыесце 10 чэрвеня 2011 года.

✔ Падведзены вынікі творчага конкурсу на лепшае асвятленне навагодніх праектаў, абвешчанага кіраўніцтвам Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі сярод друкаваных і электронных сродкаў масавай інфармацыі. Карэспандэнт БелТА Таццяна Пастушэнка ўдастоена ўзнагароды ў намінацыі “Аператыўнасць”. У намінацыі “Інфарматыўнасць” атрымаў перамогу журналіст “СБ. Беларусь сегодня” Віктар Корбут, у намінацыі “Крэатыўнасць” лепшай стала журналістка газеты “Антенна” Анастасія Целяшова.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# На паклон да класіка

Павел КУЗЬМІЧ

У вялікай зале сталічнага Дома літаратара прайшла адметная паэтычна-песенная вечарына, прысвечаная 120-годдзю выдатнага сына беларускага народа, класіка айчыннай літаратуры Максіма Багдановіча. Свята было арганізавана Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і з’явілася своеасаблівым заключным акордам у шэрагу значных юбілейных мерапрыемстваў, што прайшлі з удзелам сталічных літаратараў у навучальных установах, бібліятэках, палацах культуры і музеях.

Уступнае слова пра творчы і грамадзянскі подзвіг М. Багдановіча сказаў першы дырэктар Літаратурнага музея класіка нашай літаратуры, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Ён і быў вядучым гэтай вечарыны. Свае вершы, прысвечаныя славутаму паэту, прачыталі вядомыя творцы Генадзь Пашкоў, Навум Гальпяровіч, Мікола Чарняўскі, Міхась Пазнякоў, Уладзімір Мазго, Алесь Бараноўскі. Песні на вершы Багдановіча прагучалі ў выкананні хора СПБ “Паліфоніка”, паэтэсы, кампазітара і спявачкі Марыны Лайковай, саліста Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі “Свята”, вядучага майстра сцэны паэтычнага тэатра аднаго акцёра “Зьніч” Вячаслава Статкевіча, паэта і барда Дзмітрыя Пятровіча, кампазітара і спевака Аляксандра Якіменкі. Слухачы горача апладзіравалі і вядомаму паэту Вадзіму Спрынчану, які прачытаў вершы класіка ў перакладзе Браніслава Спрынчана на рускую мову, а таксама артысту Алегу Вінярскаму, які прадэкламаваў некалькі вершаў М. Багдановіча на беларускай мове. Спадабаўся і міні-спектакль па матывах твора класіка “Музыка” ў выкананні студэнткі Мінскага музычнага каледжа Ефрасінні Вяроўкі (скрыпка) і студэнткі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Кацярыны Ляхоўскай.

## Факт

# Падарунак для аматараў чытання

**Яшчэ адна гандлёвая кропка па распаўсюджванні друкаванай прадукцыі пачала дзейнічаць у цэнтры Мінска. Новы магазін “Белсаюздруку”, якому быў нададзены нумар 13, напярэдадні навагодніх свят наведалі першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч і дырэктар РУП “Белсаюздрук” Ігар Дудзіч.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

Месца, абранае для адкрыцця магазіна, самае бойкае — падземны пераход на Плошчы Перамогі. Тут даволі паспяхова ўжо шмат гадоў працуе “белсаюздрукаўскі” ж магазін № 18. Але яго “блізняткам” новая крама не стала. Бо акцэнтавана яна на рэалізацыю сувенірнай прадукцыі і падарункаў. Вельмі прыемна, што ў якасці лепшага падарунка прапануецца кніга. Прычым, для найбольш вядомых выдавецтваў Беларусі вылучаны асобныя паліцы. “Мастацкая літаратура”, “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, “Беларусь”, “Літаратура і Мастацтва” — дасведчаны чытач зможа лёгка знайсці навінкі гэтых і іншых выдавецтваў, ацаніць іх вартасць, пагартаўшы проста тут за кубачкам кавы (яна прадаецца ў маленькім буфеце побач з тостамі і цукеркамі), і выбраць тое, што сапраўды зацікавіла.

Канцтавары, цацкі, сувеніры ў магазіне таксама прадстаўлены. І чалавек, які збіраецца, напрыклад, у госці, без цяжкасцей аформіць падарунак на любы густ. Ужо першыя некалькі дзён працы магазіна паказалі: ён можа быць рэнтабельным. І гэта парадавала Лілію Сцяпанаўну і Ігара Віктаравіча. Яны прыгадалі, што Плошча Перамогі — гэта месца, дзе кожны дзень бывае вялікая колькасць маладых інтэлектуалаў з ліку студэнтаў і творчай інтэлігенцыі. Кніга — тое, што павінна іх цікавіць. І значыць, прыбытак забяспечаны. А разам з гэтым — і павышэнне статусу аўтараў ды выдаўцоў прадстаўленых кніг.



Між іншым, у кіраўніцтва “Белсаюздруку” ёсць планы непасрэднага супрацоўніцтва з літаратарамі, кнігавыдаўцамі і Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Вырашана ладзіць на базе новага магазіна творчыя сустрэчы, святочныя імпрэзы, прэзентацыі новых кніг з удзелам іх аўтараў. А аб’явы пра іх правядзенне вывешваць загадзя ля ўвахода ў магазін, які мае ўсе шанцы ператварыцца ў своеасаблівую літаратурную гасцёўню. Гэта ўсё выглядае надта актуальна ў год, абвешчаны ў нашай краіне Годам кнігі.

***На здымку: Л. Ананіч знаёміцца з асартыментам.***

## Глыбокае-2012

# Пачатак — палова справы

Ганна КАШПУЛЬ

Горад Глыбокае і раён актыўна рыхтуюцца да Свята беларускага пісьменства. Напрыканцы года адбылося чарговае пасяджэнне раённага штаба па арганізацыі яго правядзення. У рабоце ўзялі ўдзел першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч і намеснік начальніка ўпраўлення ідэалагічнай работы Віцебскага аблвыканкама Пётр Гнуценка. Гэта першая нарада з удзелам прадстаўнікоў дзяржаўнага кіравання.

Л. Ананіч акрэсліла патрабаванні да арганізацыі падрыхтоўчых работ, пазнаёміла ўдзельнікаў раённага штаба з функцыямі аргкамітэта, які ствараецца на дзяржаўным узроўні і ў склад якога ўвойдуць кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў.

— Уся краіна будзе рыхтаваць свята, — зазначыла Лілія Станіславаўна, — але галоўнымі выканаўцамі шматлікіх задач і планаў з’яўляюцца Міністэрства інфармацыі, Глыбоцкі раённы і Віцебскі абласны выканаўчыя камітэты. Наша сумесная творчая праца павінна набіраць абароты. Чым хутчэй мы зробім напрацоўкі свята, тым больш часу будзе на іх увасабленне. Горад вялікі, хочацца, каб у ім з’явілася як мага больш самых розных забаўляльных і спартыўных пляцовак.

Намеснік міністра звярнула ўвагу на праблемы гандлю кнігамі, іх распаўсюджвання. Удзельнікі сустрэчы разглядалі таксама пытанні прыёму і размяшчэння гасцей, забеспячэння правапарадку, выпуску друкаванай прадукцыі, дзейнасці ўстаноў культуры, адукацыі.

Пасля завяршэння работы штаба госці разам са старшынёй райвыканкама Алегам Морхатам і яго намеснікам па сацыяльных пытаннях Галінай Унуковіч наведалі шэраг аб’ектаў горада, рэканструкцыя і будаўніцтва якіх прадугледжваецца да свята, абмеркавалі некаторыя пытанні праектна-каштарыснай дакументацыі і фінансавага забеспячэння.

У бліжэйшы час у Глыбокім адбудзецца пасяджэнне выязнога абласнога штаба па пытаннях падрыхтоўкі да Дня беларускага пісьменства з удзелам старшыні абласнога выканаўчага камітэта Аляксандра Косінца.

**Газета “Літаратура і мастацтва” — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

## За падзеяй

# Намінацыя «Анімацыя»

**У сталічным Доме кіно адбылася вечарына, прысвечаная Дню беларускага кіно. Ва ўрачыстай абстаноўцы былі ўручаны нагрудныя знакі “За ўклад у развіццё культуры”, ганаровыя граматы і граматы, аб’яўлена падзяка міністра культуры супрацоўнікам, якія зрабілі істотны ўнёсак у развіццё галіны.**

Ад імя прафсаюза ўзнагароды ўручала Наталля Аўдзеева, старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры. У рамках мерапрыемства віншавалі і пераможцаў адкрытага маладзёжнага конкурсу на стварэнне літаратурнага сцэнарыя мультыплікацыйнага фільма, прысвечанага нацыянальнай тэматыцы. Заснавальнікамі конкурсу, мэтай якога было павышэнне ролі нацыянальнай кінематаграфіі ў сацыяльна-культурным жыцці грамадства, захаванне і развіццё традыцый нацыянальнага кінавідэамастацтва, былі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі саюз кінематаграфістаў, БРСМ, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Нацыянальная кінастудыя “Беларусьфільм”, Белвідэацэнтр.

Стварыць новыя арыгінальныя літаратурныя сцэнарыі мультыплікацыйных фільмаў, якія ў мастацкай форме адлюстроўваюць багацце ўнутранага свету чалавека, памкненні да высокіх духоўных, маральных і эстэтычных ідэалаў, гісторыю краіны, удалося Андрэю Акушэвічу (“Легенда гусляра”) і Алёне Беланожцы (“Калядная казка”), чые сцэнарыі адзначаны другой прэміяй. (Першую прэмію вырашылі не прысуджаць.) Трэцюю прэмію прысудзілі Кацярыне Грабенькінай (“Брацікі-сястрычкі”) і Елізавеце Красікавай (“Бабка”). Заахвочвальнымі дыпломамі адзначаны Ксенія Вяцкая (“Хаім”), Кацярына Грабёнкіна (“Куды шыбуе Шагал”), Ганна Ратнер (“Белавежскія прыгоды”), Іна Скіба (“Песня пра зубра”), Вольга Шыханцова (“Зачараваны лес”).

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Ад садка да ўніверсітэта

**Беларускі славянскі камітэт у чарговы раз звярнуў увагу на ролю беларускай мовы ў сучасным грамадстве і яе ўплыў на самасвядомасць грамадзян незалежнай Беларусі.**

Гэтае пытанне стала асноўным на Пленуме Беларускага славянскага камітэта, які не так даўно адбыўся ў Мінску. У сходзе ўзялі ўдзел навукоўцы, пісьменнікі, журналісты, прадстаўнікі сферы адукацыі. Сярод выступоўцаў — старшыня Беларускага славянскага камітэта Сяргей Касцян, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгій Марчук, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец ды іншыя. У ходзе абмеркавання даклада Сяргея Касцяна ўдзельнікі Пленума прыйшлі да высновы, што ўмовай захавання беларускай мовы ў актыўным ужытку з’яўляецца адпаведнае стаўленне да яе на ўсіх адукацыйных этапах — ад дзіцячага садка да ўніверсітэта, — і ўнеслі свае прапановы па ўдасканаленні адукацыйнага працэсу. Не выключана, што з цягам часу дзякуючы ініцыятыве камітэта ў садках пачнуцца заняткі па роднай мове, а школьнікі змогуць паўплываць на складанне праграм па беларускай літаратуры.

Алена ГАЛАЙ

Літабсягі

# Літаратура як сродак выхавання

**У Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбылася прэзентацыя новага выдання, якое ўбачыла свет у Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі. Наталля Голубева і Сяргей Трахімёнак — аўтары твораў, змешчаных на старонках зборніка "Зямля нескароная", — расказалі пра гэту кнігу, іншыя праекты і планы. Наталля Аляксандраўна нагадала пра творы, над якімі сёння працуе, — "Ваньковічы. Беларускі радавод" і вострасюжэтны раман "Камея Саледад" пра дзейнасць разведак.**

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Кастуся Дробава**

Сустрэча выйшла за межы прэзентацыі кнігі "Зямля нескароная", якая ў мінулым годзе папоўніла серыю "Школьная бібліятэка". Яна стала гутаркай зацікаўленых бакоў пра захаванне інтарэсу да кнігі ўвогуле, выхаванне чытача на гістарычных рэаліях, зберажэнне яго як суразмоўцы, а не толькі асобы, што бачыць кнігу найперш сродкам баўлення вольнага часу. Гэтыя пытанні хвалююць не толькі беларусаў. Роля літаратуры як носьбіта маральных і гістарычных каштоўнасцей сёння вельмі актуальная ва ўсім свеце, пра што сведчаць публікацыі твораў Сяргея Трахімёнка на старонках крымскай "Литературной газеты" і праект "Геніі зямлі беларускай", распачаты Наталляй Голубевай для расійскага тэлебачання. Уменне знайсці ў гістарычным мінулым вартых быць прыкладам асоб, стварыць пры дапамозе мастацкіх сродкаў героя з належнымі маральнымі і духоўнымі якасцямі, увасобіць іх экраннымі і тэатральнымі сродкамі, сарыентаваць грамадства на высокае — такія задачы сёння стаяць перад дзеячамі культуры. І пачынаць выхаванне літаратурным словам трэба з дзяцінства.

Прысутным былі прадстаўлены выданні для дзяцей і дарослых РВУ "Літаратура і Мастацтва": "Чаша Петры, альбо Руская цывілізацыя: генезіс і праблемы выжывання" і "Запіскі «чорнага палкоўніка»" Сяргея Трахімёнка, "Казкі цётухны Руф" Наталлі Голубевай.



Выхаду на літаратурную арэну новай гераіні беларускага казачнага свету — сучаснай вытанчанай жанчыны — паспрыяла Наталля Голубева. У персанажа, створанага ёй і "ўбачанага" мастачкай Рытай Цімохавай, — цётухны Руф — лёс абяцае быць шчаслівым: рэжысёр Віргінія Тарнаўскайтэ рыхтуе з вучнямі дзіцячай тэатральнай школы №1 Мінска пастаноўку паводле адной з казак зборніка. (Спектакль будзе паказаны падчас сумеснай акцыі Беларускага Экзархата і Дома Масквы для выхаванцаў дзіцячых дамоў.)

Гісторыі, з якіх складаецца кніга, як падкрэсліла Н. Голубева, грунтуюцца на ўнікальным беларускім матэрыяле — легендах і таямніцах Рагачоўскага і Аршанскага замкаў. Выданне "Казак…" на рускай і англійскай мовах дапаможа пазнаёміцца з нашай краінай дзецям усяго свету.

***На здымку: Сяргей Трахімёнак і Наталля Голубева падчас прэзентацыі.***

Артлінія

# Дзівосы — чарадой!

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

**Сонейка на вясну павярнула, дзень падаўжэў на вераб'іны скок, але зіма ў разгары і шчыруе на свае чарадзейныя святы. У цэнтры сталіцы, наўкруг зялёнай прыгажуні-ёлкі, дзень пры дні шпацыруе люд. Сёй-той скіроўвае крок да прыступак, што вядуць у падземную галерэю "Універсітэт культуры": у яе лабірынтах — працяг калядных дзівосаў. Маладыя выкладчыкі БДУКіМ аб'яднвалі свае творчыя набыткі пад назвай ядомага выставачнага праекта "Тры ў адным". А студэнты кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва да Каляд і Новага года сабралі свае "Зімовыя мары".**

На вуліцы слотна і не хапае пухнатай ды марознай каляднай казкі? Спрычыніцеся да творчых фантазій маладых талентаў, адчуйце "класіку" беларускай зімы! Яна — у найтанчэйшых павуцінках рытмічных ніцяных узораў арыгінальнага, па-хатняму ўтульнага, вышывана-плеценага пано "Вечарок" Вольгі Вашурынай; у сакральнасці старажытных абрадавых сімвалаў, уплеценых у мудрагелістую геаметрыю буйных карункавых сняжынак-выцінанак "Каляды" і "Піліпаўка" Вольгі Сарокі; у дынаміцы жанравых сюжэтаў на крутых снегавых хвалях містычнага "Міракля" — габелена Ірыны Дубягі; у сумоўі непахіснага і непрадказальнага — праз шыкоўную дэкаратыўнасць габелена Дануты Валынец "Спрадвечнае"; у прыцягальнай цеплыні радзіннага агменя, што жывіць саграе керамічныя кампазіцыі Алега Ткачова ("Паганскія цацкі"), Івана Дашкова ("Мураванка"), Андрэя Княжэвіча ("Ліхтарыкі"). Зімовыя мары, таемныя мроі, покліч традыцыі, скіраванасць у будучыню... Колькі ўвабрала ў сябе гэтая невялікая выстаўка! Да таго ж, яна сталася адлюстраваннем любові нашых таленавітых сучаснікаў да народнага мастацтва, ведання сакрэтаў умельства майстроў-беларусаў, цікавасці да найглыбейшых, яшчэ дахрысціянскіх, пластоў жыццёвага ўкладу нашых продкаў. І — памкненнем да мудрай пераемнасці беларускіх культурных традыцый, якія ў XXI стагоддзі сілкуюць прафесійных мастакоў свежымі творчымі ідэямі.



***На здымку: выцінанка "Вадзянік" Веранікі Канапелькі з выстаўкі "Зімовыя мары".***

Повязі

# Творчы вечар у Рызе

**Яніна ВАСІЛЕЎСКАЯ**

**У актавай зале Рыжскай беларускай школы прайшоў творчы вечар члена Саюза пісьменнікаў Беларусі паэта Станіслава Валодзькі, прысвечаны яго 55-годдзю.**

Станіслаў Валодзька — асоба добра вядомая ў Латвіі. Беларускамоўны паэт, ён нарадзіўся ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Але лёс закінуў яго ў Прыбалтыку, у горад Даўгаўпілс. Можа, гэта не так і далёка ад радзімы, асабліва калі ўлічыць, што Даўгаўпілс быў некалі беларускім горадам Дзвінскам. І тым не менш сёння, калі гэта зусім іншая незалежная дзяржава, не забыцца пра свае карані, культуру і мову можна толькі гуртуючыся ў зямляцтве.

Паэт Станіслаў Валодзька з'яўляецца членам Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні ў Даўгаўпілсе беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым". І ўсяляк прапагандуе ў Латвіі родную мову, ладзіць канцэрты беларускай паэзіі і музыкі, складае і рэдагуе беларускамоўную старонку "Беларус Латгаліі" ў даўгаўпілскай рэгіянальнай газеце "Латгалес Лайкс". На вершы С. Валодзькі кампазітарамі Латвіі і Беларусі напісана шмат песень. Многія з іх гучалі і на юбілейнай вечарыне ў Рызе ў выкананні беларускіх вакальных калектываў "Надзея" (Рыга), "Паўлінка" (Ліепая), "Завіруха" (Екабпілс), дзіцячага ансамбля "Вавёрачка" Рыжскай беларускай школы, а таксама салістаў Ганны Крупскай, Людмілы Сінкевіч, Сімы Смірновай, Вольгі Лукшы і Аляксандра Лапы.



Вершы паэта "Астравеччына" і "Няхай бяроза…" прачытала яго зямлячка Галіна Сантоцкая. Сам аўтар прадставіў прысутным дыск сваіх вершаў "Зямны паклон" — іх чытаюць заслужаны артыст Беларусі Андрэй Душачкін і сам аўтар.

Са словамі прывітання да віноўніка ўрачыстасці звярнуліся пасол Беларусі ў Латвіі Аляксандр Герасіменка, генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Віктар Гейсік, эксперт нацыянальных меншасцей Латвіі Айна Балашка, старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова, старшыня беларускага таварыства "Надзея" ў Рызе, дэпутат Сейма Алена Лазарава, дырэктар Рыжскай беларускай школы Ганна Іване, прадстаўнікі беларускіх таварыстваў Елгавы, Ліепаі, Екабпілса, Лудзы і Даўгаўпілса. Былі зачытаны віншавальныя лісты ад старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца і старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова.

***На здымку: юбіляр прымае хлеб-соль ад ансамбля "Паўлінка" з Ліепаі.***

З-пад пяра

У СШ № 3 г. Дзятлава неаднаразова ладзіліся сустрэчы з пісьменнікамі. Вось і нядаўна да іх завіталі супрацоўнікі РВУ "Літаратура і Мастацтва" крытык Ціхан Чарнякевіч і паэт Рагнед Малахоўскі. Госці прадставілі новую кнігу "Максім Багдановіч: вядомы і невядомы", укладальнікам якой з'яўляецца Ціхан Чарнякевіч. Ён падрабязна распавёў прысутным пра працу над прэзэнтуемай кнігай і яе адметнасць у літаратурным свеце. Ад арганізатараў сустрэчы прагучала цікавая прапанова: стварыць у школе Дзятлава бібліятэку-музей кніг маладых пісьменнікаў Беларусі. Будзем спадзявацца, што гэту ідэю падтрымае творчая моладзь краіны.

**Людміла ГАТАВІЦКАЯ**

Напрыканцы мінулага года рэспубліканская акцыя "Чытаем разам" завітала на Любаншчыну. На зямлю, апетую Янкам Купалам у паэме "Над ракой Арэсай", прыехалі Мікола Мятліцкі, Анатоль Зэкаў, Алесь Бараноўскі і зямляк любанцаў, краязнаўца і даследчык гісторыі краю Анатоль Чабаганаў-Статкевіч. Госці наведалі Смольгаўскі і Тальскі дзіцячы сад-сярэднюю школу, а таксама Рачэнскую і Камунараўскую школы. Для чытання разам былі выбраны кнігі пісьменнікаў-любанцаў Уладзіміра Паўлава "Згадка на дабро", Івана Муравейкі "Вадзіца з крыніцы", Анатоля Чабаганава-Статкевіча "Я — сын Ваш" і "Янкаў вянок" Уладзіміра Ліпскага. На сустрэчах з пісьменнікамі школьнікі дзяліліся сваімі ўражаннямі пра кнігі, чыталі вершы з паэтычных зборнікаў, прaвярaлі веды сяброў і ўменне разгадваць загадкі. Эстафета акцыі "Чытаем разам" перададзена школьнікам Барысаўскага раёна.

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

На працягу ўсяго 2011 года галоўны казачны герой часопіса "Вясёлка" Вася Вясёлкін запрашаў чытачоў у віртуальнае падарожжа па краінах свету. Разам з ім хлопчыкі і дзяўчынкі наведалі 12 краін, сярод якіх і нашы блізкія суседзі Расія, Украіна, Польшча, Літва, Латвія, і больш далёкія Азербайджан, Кітай, Індыя, Славакія, Ізраіль, Венесуэла. Завяршыўся праект вандроўкай у казачнае Каралеўства Швецыя. Прэзентацыя дванаццатага нумара супала са святкаваннем Каляд і Новага года, таму на ёй у Доме літаратара пры ўдзеле артыстаў Тэатра юнага гледача былі і наш Дзед Мароз са шведскім Санта-Клаўсам, і Снягурка, і іншыя героі з навагодніх казак. Не абмінуў урачыстасці таксама Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь Стэфан Эрыксан.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

У маладога паэта Дзмітрыя Радзівончыка, студэнта філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, прайшоў першы творчы вечар. Імпрэза складалася з трох частак: радкі, стопы, страфы. Радкі — пачатак творчасці, спробы пяра, пошукі ўласнага стылю і формы. Стопы — рэалізацыя шматлікіх творчых задум, асэнсаванне сябе як паэта ў соцыуме, выданне першай кнігі вершаў "Пиррова техника" (2006). Страфы — цяперашні этап, узьдым творчага натхнення, замацаванне паэтычнай і грамадзянскай пазіцыі, усведамленне прызначэння і кніга паэзіі "Дым без огня" (2010). Для многіх асоба Дзмітрыя, вытанчанага лірыка і філосафа, чалавека вялікай эрудыцыі, удумлівага, нават у нечым неардынарнага, раскрылася больш поўна. Члены абласной пісьменніцкай арганізацыі спадзяюцца, што ў хуткім часе паэт папоўніць шэрагі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён гэтага варты.

**Людміла КЕБІЧ**

# Прывід мюзікла

**Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр упершыню абвясціў конкурс на стварэнне арыгінальных нацыянальных спектакляў, які працягнецца да 1.12.2012 г. За "круглым сталом" тэатра нядаўна сустрэліся прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, зацікаўленыя новай падзеяй. Сярод іх — мастацкі кіраўнік БДАМТ Адам Мурзіч і галоўны дырыжор Алег Лясун; рэжысёры гэтага ж тэатра Настасся Грыненка і Ганна Маторная; кампазітары Уладзімір Кандрусевіч, Сяргей Картэс, Канстанцін Яськоў; паэты Навум Гальпяровіч, Таццяна Мушынская, Таццяна Сівец, Віка Трэнас; музычны крытык Надзея Бунцэвіч, радыёжурналіст Людміла Палкоўнікава, сцэнарыст Таццяна Сінкевіч. Газетную версію той палемічнай размовы прапануюць Вольга Нікалаеўская і Святлана Берасцень.**

**Адам МУРЗІЧ.** Не сакрэт, што фінансавае становішча тэатра сёння вельмі складанае, аднак нашы партнёры гатовыя падтрымаць конкурс — каб з'явіліся спектаклі, цікавыя і музычна, і ў літаратурным плане. У конкурсе дзве намінацыі: аперэта (камічная опера, музычная камедыя) і мюзікл. Чаму мюзікл? Таму, што недалёкі той час, калі наш тэатр падзеліцца на дзве трупы. Адна, скажам так, маладзёжная, якая адчувае пульс часу, спявае ў адпаведнай манеры, скарыстоўваючы мікрафон. Другая — "венская" трупа, якая пяе класіку. Абвяшчэнне конкурсу абумоўленае насамперш тым, што апроч твораў У. Кандрусевіча спектакляў беларускіх аўтараў, і тым больш — на беларускай мове, у нас, да вялікага нашага сораму, няма. Новае кіраўніцтва БДАМТ паабяцала беларускай грамадскасці пастарацца гэты прагал ліквідаваць. Мы не абвяшчалі конкурс на дзіцячы спектакль: тут у нас справы неблагія. Ды калі камусьці захочацца папрацаваць у гэтым напрамку, мы не супраць. Магчыма, потым і абвесцім адпаведны конкурс, бо хацелася б, каб у рэпертуары для дзяцей з'явіўся спектакль на беларускай мове.

**Алег ЛЯСУН.** Найгалоўны крытэрый для конкурсных твораў — цікавая музыка і цікавая п'еса. Хацелася б убачыць нестандартны падыход да музычнага матэрыялу, пачуць прывабныя, прыгожыя, запамінальныя мелодыі. І каб беларуская мова нарэшце загучала ў Музычным тэатры. Я думаю, гэты конкурс — шанц знайсці яркі твор. У нас, на шчасце, багата цікавых кампазітараў. Спадзяюся, мы зробім годную справу і для свайго тэатра, і для беларускай культуры.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.** Беларуская мова павінна гучаць у нашых тэатрах: гэта бясспрэчна. Але творчая сувязь паэтаў і кампазітараў, на жаль, перарвалася. Патрэбныя нейкія зрухі, каб вярнуць тыя двухбаковыя стасункі, наладзіць найперш асабістыя кантакты творцаў. І конкурс тут можа паспрыяць. Музычны тэатр выступіў з такой цудоўнай канкрэтнай ініцыятывай. Зразумела, не хочацца нікому працаваць "у стол". Таму трэба, на мой погляд, замаўляць канкрэтныя тэмы, заключаць дамовы, наладжваць супрацоўніцтва. Усе замежныя госці Мінска ў першую чаргу цікавяцца: а дзе ж ваша мова? Арыгінальныя песні, спектаклі? Нацыянальнае мастацтва павінна быць з мовай Купалы, Коласа, Багдановіча. Кампазітары могуць пацвердзіць, як хораша яна кладзецца на музыку: нібыта створана для спеваў!

**А. М.** Працуючы са студэнтамі як вакальны педагог, я заўсёды адчуваў, як добра кладзецца мелодыка беларускай мовы на музыку. Знаёміўся і з даследаваннямі, паводле якіх беларуская мова займала другое месца пасля італьянскай па мілагучнасці.

**Віка ТРЭНАС.** Скажу ад майго, маладзейшага пакалення беларускіх паэтаў, якія друкуюцца на старонках часопіса "Маладосць", адзінага выдання на ўсю краіну, прысвечанага менавіта маладзёжным рухам і маладзёжнай літаратуры. Лібрэтыстаў сярод нашых аўтараў за апошнія пяць гадоў, колькі я працую ў "Маладосці", увогуле не было. Гэта вельмі складаны і спецыфічны жанр, які вымагае і драматургічнага мыслення, і адпаведнай адукацыі, і адукаванасці. Напэўна, у нас проста не ставала настаўнікаў старэйшых, якія маглі б праводзіць майстар-класы, адпаведным чынам вучыць; альбо праз нейкі конкурс падштурхнуць да творчасці таленавітых людзей з належнай адукацыяй. Вось новы конкурс і павінен быць штуршком. Але важна, каб маладое пакаленне мела пэўную падтрымку, бо лібрэта, зразумела, пішацца пад заказ, па натхненні не ствараецца. Гэты конкурс узнімае адразу столькі вялікіх праблем: выхаванне, адукацыя, уменне працаваць у творчых колах між сабой.

**Канстанцін ЯСЬКОЎ.** Дапусцім, я, малады кампазітар, вырашыў удзельнічаць у ім. Як мне знайсці паэта, калі я тут чую, што лібрэтыстаў у нас няма, іх не навучаюць? А калі я знайду такога чалавека і мы будзем разам пісаць конкурсны твор? Дзве дзеі па 40-50 хвілін — досыць сур'ёзная праца. Але няма гарантыі, што потым гэта будзе пастаўлена.

**А. М.** Гарантыя? Якасць!

**К. Я.** Гэта зразумела. Але ўявіце, што будуць напісаныя дзесяць твораў годных. Усё роўна хоць адзін з іх пойдзе ў стол: год працы лібрэтыста і кампазітара! Праблема. Лепш бы засяродзіца на канкрэтных кампазітарах і літаратарах, задаць ім пэўную тэматыку. І кампазітарам было б значна лягчэй, калі б ужо зараз прапаноўвалася лібрэта або некалькі на выбар. Ці хаця б ідэя.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ.** На мае вершы напісана вельмі шмат музычных твораў: я зрэдчас жартам кажу, што больш, чым у Купалы і Коласа разам узятых. На сённяшні дзень болей як дзвесце: і песні, і рамансы, вакальныя і харавыя цыклы, асобныя хары. У мяне маса тэкстаў, і я "хаджу па кампазітарах": можа, каго зацікавіць? У мяне шэраг гатовых балетных лібрэта, якія я, выбачайце за вульгарнае слова, ніяк не магу прыладзіць, знайсці кампазітара, які зацікавіўся б. Бывала, пачыналася праца над маім лібрэта, фрагменты музыкі былі напісаныя, а потым — стоп, бо ёсць сям'я ў кампазітара, ёсць іншая работа, ён мусіць заставацца ў соцыуме, каб мець сродкі на штодзённы хлеб. У мяне ёсць і некалькі оперных лібрэта, і шмат накідаў. Але пытанне: "Як супасці з кампазітарам?" — самае складанае.

**Людміла ПАЛКОЎНІКАВА.** Павінна быць у тэатры невялікая творчая група, якая працавала б з матэрыялам, прапанаваным на конкурс: рэжысёр, дырыжор, рэдактар... Да іх прыйдуць аўтары, прапануюць свае ідэі, напрацоўкі. Тая група і вызначыць, каго з кім звесці для далейшай працы.

**А. М.** У нас за гэта адказныя галоўны рэжысёр і галоўны дырыжор, на чале з мастацкім кіраўніком. І ўсе рэжысёры і дырыжоры тэатра ўлучаныя ў працэс.

**Уладзімір КАНДРУСЕВІЧ.** "На лібрэтыстаў" у нас не вучаць. Калі я заканчваў кансерваторыю, нас там не вучылі пісаць мюзіклы... Перш за ўсё павінен быць талент чалавека, які выдасць ідэю. І ўжо зыходзячы з яе трэба шукаць людзей, якія паспрыяюць фарміраванню новага твора на падставе гэтай ідэі. Трэба цалкам змяніць падыход да працэсу. Не пладзіць масу непатрэбнага. Небаракі сапраўды гадамі будуць працаваць, пісаць… Важна знайсці чалавека, здольнага арганізаваць працэс, як гэта робіцца ў Маскве. Яркі прыклад — мюзікл "Граф Монтэ-Крыста" ў тэатры "Московская оперетта". Гэта, я лічу, сёння найлепшы прадукт у адпаведнай галіне. А напісаў музыку малады аўтар Р. Ігнацьеў, які не мае спецыяльнай адукацыі… Не трэба казаць, што нас не вучылі, мы не ведаем. Сам я гатовы працаваць хоць год бясплатна, калі ёсць ідэя і ёсць разуменне, што атрымаецца нешта цікавае. Я гэтак і жыву.

> *Калі арыентавацца на касу, дык ніколі не пачуем у нашых сценах беларускае слова і беларускую музыку. Гэты конкурс — не кан'юнктурнае рашэнне, а доўгачасовая праграма тэатра.*

**А. М.** Мы ўжо год працуем з У. Кандрусевічам над стварэннем мюзікла пра гісторыю жыцця Ягайлы і Соф'і Гальшанскай. Практычна ўсё гатова да пастаноўкі, ёсць і рэжысёр спектакля. Шчыра скажу: працу "прытармазіла" праблема грошай. Але мы робім усё, каб гэты твор з'явіўся на сцэне.

**Настасся ГРЫНЕНКА.** Большасць тут разважае катэгорыямі песні: вершы, музыка… А буйная форма вымагае драматургіі. Вы напішаце цудоўную паэзію, цудоўную музыку, але не будзе драматургіі — і не будзе спектакля. Дый не ўсе паэты могуць быць драматургамі. Гэта зусім розныя ўменні. Трэба драматургаў падключаць: хай яны пішуць лібрэта. І мяне бянтэжыць боязь маладых аўтараў пісаць "у стол". Не напішаце ў стол — наогул нічога не напішаце! Расійскі кампазітар Г. Гладкоў піша ў стол, хоць ён вядомы і прызнаны і можа сабе дазволіць гэтага не рабіць. Такім чынам ён развіваецца. А тут — іншае мысленне: барані божа, мы напішам, а не паставяць… І не паставяць, калі гэтак разважаць. Пішы пра тое, пра што ты не можаш не пісаць! Гэтак працуюць У. Кандрусевіч, С. Картэс. Ніхто не абяцаў іх творы ставіць, а яны сядзяць і пішуць. А вы баіцеся зрабіць штосьці лішняе дзеля свайго ж досведу. Надта інфантыльная пазіцыя: маўляў, вы нам прывядзіце лібрэтыстаў, вы прыдумайце, пра што мы напішам...

**Ганна МАТОРНАЯ.** Так, не прыраўноўвайце нас да педагогаў. Мы не павінны нікога вучыць! Што ж, збяромся, прыдумаем ідэю... Распавядзём вам, як усё трэба зрабіць, можа, яшчэ і напяём, а вы за намі запішаце, потым апрацуеце і будзе твор?

**Сяргей КАРТЭС.** Каб нехта збоку прапанаваў напісаць вось такую ці такую оперу? Ніколі не паверу, што хтосьці прыходзіў да Р. Вагнера і казаў: давай напішам "Тангейзера"! Не можа гэтага быць. Ідэя павінна нараджацца ў кампазітара.

**Г. М.** Моладзь, зважайце! Усе оперы С. Картэса, вельмі вядомага творцы, унікальныя не толькі з пункту гледжання драматургіі (бо напісаныя на аснове п'ес Брэхта, Дзюрэнмата, Чэхава). Яго творы ўнікальныя, бо там ёсць аўтарская музычная драматургія. Калі я, рэжысёр, бяру ў рукі яго оперу, дык магу яе па-свойму трактаваць, але для мяне там ёсць музычная драматургія. Высакакласны матэрыял.

**Надзея БУНЦЭВІЧ.** Мы зараз намагаемся звесці ўсё да нейкага адзінага варыянта правядзення конкурсу. А ў свеце іх шмат, і розных. Прыгадаем, як рабіў С. Дзягілеў: ёсць ідэя, пад яе збіраюцца кампазітар, мастак, харэограф, рэжысёр, артысты і з гэтай ідэяй працуюць. Ён ведаў сваіх аднадумцаў, ведаў, каго шукаць. Калі мы не ведаем сваіх кампазітараў, хто з іх да чаго здатны, тады пра што гаварыць... Часта творцы працавалі па замове тэатра. У нас існавала практыка дзяржаўных заказаў. Кампазітар, які задумаў оперу, накіроўваў заяўку ў Міністэрства культуры, з ім заключалі дамову. Ён пачынаў працу, атрымаўшы грашовы аванс — каб мог аддацца гэтай працы цалкам, забяспечыўшы сям'ю... Мне здаецца, наш конкурс трэба праводзіць сярод моладзі, калі хочам знайсці тое імя, якое далучыцца да працы.

**Г. М.** Для нашага тэатра твор павінен быць касавым. Я ўпэўненая: нават калі гэта будзе геніяльны твор, напісаны на беларускай мове, з добрым лібрэта і з добрай музыкай, але ён не будзе касавы, яго ставіць — бессэнсоўна. І калі браць лібрэта на беларускай мове, гэта павінна быць нешта выбітнае. І самае галоўнае: паступова беларуская мова выйшла з ужытку — я прапаную і вяртаць яе паступова.

**Н. Г.** Самае галоўнае — падтрымаць ініцыятыву тэатра, адгукнуцца на яе, каб з'явіўся музычны спектакль, за які не было б сорамна. А гаварыць пра паступовае вяртанне мовы… Мы ўсё жыццё гаворым пра паступовае вяртанне. А знікае — раптоўна. Не трэба баяцца ствараць на беларускай мове. За Мулявіна, за ягоныя песні не было сорамна нідзе. Касавасць? Неабходна выхоўваць чалавека, і касавасць тады з'явіцца! Мы чамусьці апошнім часам ідзём за попытам. Самі ж яго не фарміруем! А трэба фарміраваць культуру ўспрымання, каб чалавек без прымусу разумеў і адчуваў, што твор нацыянальнага мастацтва павінен быць нацыянальным, вартым нашай краіны, гісторыі, багатай літаратуры.

**А. М.** Запэўню ўсіх: арыентавацца на касу мы не будзем. Калі арыентавацца на касу, дык ніколі не пачуем у нашых сценах беларускае слова і беларускую музыку. Гэты конкурс — не кан'юнктурнае рашэнне, а доўгачасовая праграма тэатра. Не атрымаецца знайсці высокамастацкі твор з першай спробы — абвесцім наступны конкурс.

**Таццяна СІНКЕВІЧ.** Хто будзе вызначаць вартасць твора? І што калі ён ужо гатовы: у кампазітара Ганны Казловай ёсць мюзікл, які яна пісала некалі ў стол і ўжо досыць даўно шукае мажлівасць паставіць...

**А. М.** Мюзікл Г. Казловай ляжыць не ў стале, а НА стале! З ім азнаёмілася кіраўніцтва нашага тэатра, і ёсць добрыя рэкамендацыі. Конкурсныя творы ацэніць не персанальна мастацкі кіраўнік ці галоўны рэжысёр, а будзе калегіяльнае меркаванне. Я нават пафасна сказаў бы: меркаванне выбітных дзеячаў музычнага тэатра, людзей, якія не лабіруюць чыесьці інтарэсы. І конкурсны адбор пройдзе ананімна.

**Г. М.** Хай бы кампазітары прыйшлі да нас, паглядзелі трупу: з разлікам на каго пісаць. Яны ж нейк павінны цікавіцца, для каго і дзеля чаго пішуць.

**К. Я.** Чаму думаюць, што ўсе кампазітары апанаваныя славалюбствам і мараць проста ўбачыць свой твор пастаўленым? Калі тэатру патрэбна пэўная музыка, я магу яе напісаць. Але я мушу ведаць, што канкрэтна ад мяне патрабуецца. А то буду прыдумваць, прынясу, а такое не трэба!

**Г. М.** Гэта калі музыка прыкладнога характару, рэжысёр выклікае і кажа: напішыце вось такое! А вы самі чым-небудзь захапляецеся? Вас цікавіць штосьці?.. Вось Н. Грыненка, рэжысёр, ужо робіцца аўтарам лібрэта, бо ёй лацвей напісаць самой, чым даверыць некаму іншаму. Атрымліваецца годна: усе яе спектаклі — касавыя.

**Таццяна СІВЕЦ.** Вы займаецеся не сваёй справай. На тое і ёсць паэты, пісьменнікі, каб дапамагаць вам.

**Н. Гр.** Дык вы ж самі кажаце, што сярод вас няма лібрэтыстаў.

**Т. С.** Дык навучыце нас!

**Н. Гр.** А навошта мне вучыць вас, калі я навучылася сама і магу працаваць, і на Расію, і…

**Т. С.** Дзеля чаго ж тады абвешчаны конкурс?!

**А. М.** Калі мы абвясцілі конкурс, дык і паклапоцімся пра тое, каб вы былі правільна зарыентаваныя, працавалі ў належным кірунку і плённа. А вынікам нашых супольных высілкаў, спадзяёмся, будзе цудоўны беларускі нацыянальны твор.

# Не збіраемся спыняцца

## Новы год — своеасаблівая кропка адліку, якая правакуе распачаць як мінімум новую справу, а як максімум — новае жыццё. Якія ж творчыя планы (мінімалістычныя, максімалістычныя?) маюць на 2012 год, Год кнігі, пісьменнікі?



**Раіса БАРАВІКОВА:**

— Хочацца завяршыць распачатае ў 2011 годзе. Гэта некалькі аповесцей для падлеткаў, сюжэты якіх выпрабавала на падлеткавай аўдыторыі. Ім яны падабаюцца, значыцца, можа быць кніга, якая хутка разыдзецца, будзе запатрабаванай. Ёсць яшчэ некалькі аповесцей, да працы над якімі хочацца вярнуцца. Планую і казачна-прыгодніцкую кнігу для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту. Не страчваю надзеі, што будуць пісацца вершы. Натхненне яшчэ не адпускае, і ўсё ж перавагу аддаю літаратуры для дзяцей і падлеткаў. Калі мы хочам, каб у недалёкай будучыні ў нас быў чытач, трэба, каб нашы кнігі ўжо цяпер палюбілі дзеці. І такая тэндэнцыя назіраецца. Калі хто ўважліва сочыць за рэйтынгам зачытаных кніг на старонках "ЛіМа", дык не можа не заўважыць, што найбольшай папулярнасцю сярод чытачоў карыстаецца менавіта дзіцячая літаратура. І гэта — наш поспех!



**Міхась ПАЗНЯКОЎ:**

— У 2012 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" павінна выйсці кніга казак для дзяцей "Возера Дзіва", у РВУ "Літаратура і Мастацтва" — "Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" ў двух тамах, а таксама кніга апавяданняў і казак "Серабрыстыя чайкі". На мінскай фабрыцы каляровага друку выйдзе энцыклапедыя школьніка "Падарожжа ў свет адкрыццяў". Па заказе выдавецтва "Пачатковая школа" працую над "Слоўнікам беларуска-рускіх амонімаў", які будзе адначасова перакладны і тлумачальны. Завяршу салідную кнігу паэзіі і прозы для дарослых. А яшчэ планую падрыхтаваць некалькі невялікіх кніжачак для дзяцей: вершы пра Беларусь, нашы дзяржаўныя сімвалы, родную прыроду, лічылкі, смяшынкі, загадкі… Гэта — пра асабістую творчасць. Але ж буду нямала працаваць і як літаратурны рэдактар, укладальнік, аўтар праектаў. У 2012 годзе прадоўжым выпуск серый "Мінскія маладыя галасы", "Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі", распачынаем выданне альманаха "Маладзік", у якім прадставім творы юных літаратараў сталіцы. Адным словам, спадзяюся, што новы год будзе руплівым, актыўным, шчодрым.



**Алена БРАВА:**

— Тэмы заўсёды адны і тыя ж: сутнасць і псеўда, любоў і страх, непазбыўнасць адзіноцтва чалавека ў свеце. Найбольш каштоўнае, што дае набліжэнне да канчатковага пункта жыццёвай гульні, — гэта пераключэнне ўнутранай оптыкі, новы пункт гледжання на рэальнасць; добра бачу гэта, займаючыся перакладамі на рускую мову напісанага мною за апошнія дзесяць год. Па меры таго, як мінулага становіцца ўсё больш, з'яўляюцца новыя магчымасці для яго адлюстравання. У аповесці "Рай даўно перанаселены", якая выйдзе ў першым нумары 2012 года часопіса "Маладосць", я паспрабавала зрабіць гэтае пераключэнне ўнутранага зроку галоўным мастацкім прыёмам. А яшчэ хацелася б напісаць раман, накіды да якога раблю ўжо на працягу пэўнага часу. Ва ўмовах, калі найвышэйшага прафесіяналізму тэкстаў, на які ты здольны, трэба дасягаць за кошт выхадных і адпачынкаў, гэта праца не на адзін год.



**Валерый ГАПЕЕЎ:**

— Планую выдаць дзве кніжкі, сабраць ужо напісанае ў трэцюю і здаць у выдавецтва, напісаць чацвёртую… Нехта ж так і будуе свае планы, выдыхаючы потым за трыбунай амаль у аргазме: "10 кніжак… 15… Яшчэ…" А можа, вынік найлепшы ёсць тады, калі мы працуем не дзеля выніку, а проста жывём і працуем: так, як можам, абапіраючыся на свае здольнасці і сумленне? Можа, не трэба будаваць планаў, а проста рабіць — рабіць, пакуль ёсць здароўе, магчымасць і час? Вось з такімі думкамі закончыў я гэты год і пачынаю наступны. Дасць бог, зраблю тое, што не запланавана, а проста хочацца зрабіць. Што хочацца? Хачу бачыць у Сеціве вялікую літаратурную пляцоўку, дзе будзе месца маладым аўтарам і сталым, але не будзе звядзення рахункаў і слоўнага бруду, не будзе ўсхвалення графаманства. Зразумела, аднаму брацца за такую справу нерэальна — буду шукаць сяброў. Буду чытаць і вучыцца. Буду пісаць. Здаецца, жыццёвага вопыту падназбіраў, каб узяцца за нешта такое, дзе б умясцілася і маё бачанне свету, і мае спадзевы.



**Яўгенія ПАСТЭРНАК:**

— Гэты год у нас з Андрэем Жвалеўскім выдаўся "ўраджайным" на літаратурныя прэміі, і ў наступным не збіраемся спыняцца. Выйдзе наша аповесць у апавяданнях "Шэкспіру і не снілася!", якая ўвайшла ў кароткі спіс другога сезона конкурсу падлеткавай літаратуры "Книгуру". Спадзяёмся, што выйдзе ўжо напісаная кніга "Я хачу ў школу!". У праекце новая кніга пра каханне, пакуль што ў нас ёсць толькі назва — "Каханне ў чытальнай зале". Хочам напісаць п'есу, але на гэта не хапае часу. А яшчэ нам бы хацелася зрабіць у Мінску праект, аналагічны "Школе дзіцячага чытання", які ўжо сем гадоў працуе ў бібліятэках Ленінградскай вобласці: падлеткі збіраюцца ў бібліятэках, чытаюць кнігі, абмяркоўваюць і галасуюць за іх. Нашыя падлеткі чытаюць і заслугоўваюць таго, каб да іх меркавання прыслухоўваліся.



**Андрэй ФЕДАРЭНКА:**

— Хачу дачакацца выхаду ўжо звярстанай кнігі "Сечка" ў выдавецтве "Галіяфы", падумаць над прапановай ад дэпартамента культуры мэрыі Масквы — наконт перакладу і змяшчэння якога-небудзь майго твора ў чатырохтомніку "Літаратура бліжняга замежжа", здаць новую аповесць у часопіс "Маладосць", новае апавяданне ў газету "Звязда", падрыхтаваць (як будзе час і настрой) новую кнігу аповесцей… І, канечне ж, самы любімы занятак — разбіранне чарнавікоў.



**Алесь БАДАК:**

— Гадоў пятнаццаць таму я пачаў пільна прыглядацца да жанру паэмы, і ў выніку мне адкрыўся ўніверсальны для працы паэтычны аб'ём: нешта сярэдняе паміж доўгім вершам і кароткай паэмай. Такі аб'ём дазваляе цалкам выказацца і пры гэтым, спадзяюся, не стамляе чытача, якога сёння цяжка прывабіць буйнымі формамі што ў паэзіі, што ў прозе. Аказалася, з напісанага за гэты час вымалёўваецца самастойны зборнік, над якім я хачу сёлета актыўна папрацаваць. Што датычыць прозы, то даўно хачу ўзяцца за аповесць, сярод герояў якой будуць Купала, Багдановіч і шмат хто яшчэ. Сэнс такі: стары паэт, "жывы класік", прадбачыць свой хуткі сыход і, узіраючыся ў мінулае, адчувае сябе вельмі нешчаслівым чалавекам, бо ў яго жыцці ніколі не было сапраўднага кахання, а сярод яго вершаў няма ніводнага хрэстаматыйнага твора, прысвечанага жанчыне. І тут перад ім з'яўляецца ці то Муза, ці то Мефістофель і дае "апошні шанц": магчымасць адчуць тое, што адчувалі іншыя людзі — і геніі, і злачынцы — у час, калі яны былі ў палоне кахання…

***Да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа***

# Маці сына выпраўляла…

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ, фота Кастуся Дробава**

Упершыню гэта ідэя ўзнікла ў Міколы Мятліцкага, калі ён рыхтаваў да друку аповесць сына Якуба Коласа Міхася Міцкевіча пра малодшага брата Юрку.

Летам сорак першага Юрка прыехаў з воінскай часці, дзе служыў, у Мінск на стралковыя спаборніцтвы. Аднак спаборніцтвы гэтыя былі скончаны заўчасна: пачалася вайна. Юрку трэба было тэрмінова вяртацца ў часць.

Перад ад'ездам браты прыселі ў двары ля паветкі. Юрка быў маўкліва-задуменны, сказаў толькі на развітанне: "Міхась, захавай мае стрэльбы. Скончыцца вайна — будзем разам хадзіць на паляванне…"

Марыя Дзмітрыеўна, праводзіўшы Юрку да весніц, доўга глядзела яму ўслед, нібы прадчувала мацярынскім сэрцам, што развітваецца з сынам назаўсёды.

На вялікі жаль, так яно і здарылася. Апошняе пісьмо ад Юркі, датаванае 30 верасня, прыйшло аднекуль з-пад Смаленска. І болей — ні вестачкі. З горыччу напісаў пазней Якуб Колас у паэме "Рыбакова хата": "Мне боль пякучы сэрца гложа, і сына ўспомню я свайго. А дзе маґіланька яго, мне адказаць ніхто не зможа…"

Трагічнасць сітуацыі надзвычай моцна ўразіла Міколу Мятліцкага. "А што, калі ўвасобіць гэта ў пластычныя вобразы? — падумаў ён. — Быў бы яшчэ адзін выдатны мемарыяльны знак у гонар нашага слыннага песняра".

Падзяліўся сваёй задумай з Міхасём Канстанцінавічам. Той узрадавана ўхваліў:

— Цудоўна! І паставіць гэты знак трэба ў парку імя Горкага, на тым месцы, дзе да вайны знаходзілася хата Якуба Коласа і адкуль Марыя Дзмітрыеўна выпраўляла Юрку на вайну.

Сталі вырашаць, хто б мог узяцца за вырашэнне гэтай задумы. Аднадушна сышліся на асобе Івана Міско. Па-першае, ён выдатнейшы скульптар, інтэлігентнейшы чалавек, для якога ўсё нацыянальнае не пусты гук. А па-другое, з аналагічнай тэмай ён ужо судакрануўся ў сваім творчым жыцці, мае пэўны досвед і напрацоўкі.

Заставалася толькі ўгаварыць самога скульптара.

І вось сустрэча ў майстэрні Міско. Міхась Канстанцінавіч і Іван Якімавіч паразумеліся з першых хвілін. Размова вельмі хутка перайшла ў практычнае рэчышча — як і што можна зрабіць, каб мемарыяльны знак не толькі адлюстраваў пэўную старонку з жыцця нашага песняра, але і годна ўпрыгожыў папулярны сталічны парк.

Канечне, рэалізаваць задуманае не так проста. На гэтым шляху будзе нямала розных праблем — і творчых, і фінансавых, і чыста тэхнічных. І ўсё ж хацелася б, каб да 130-гадовага юбілею Якуба Коласа цікавая ідэя была здзейснена.



***На здымку: Міхась Міцкевіч і Іван Міско ў майстэрні скульптара за абмеркаваннем праекта мемарыяльнага знака.***

Іван САВЕРЧАНКА,
доктар філалагічных навук

# «Навучыцца любові да людзей...»

**Георгій Марчук — удумлівы празаік і сапраўдны майстар мастацкай дэталі. Яго стылю ўласцівы іскрысты гумар, асаблівая пачуццёвасць і шчырасць. Уласнай шматграннай творчасцю Г. Марчук нязменна ўвасабляе ў жыццё фундаментальны прынцып: пісьменнік — гэта шчодры настаўнік, захоплены асветнік, адказны выхавацель і надзейны дарадца.**

Г. Марчук (01.01.1947) — выдатны беларускі пісьменнік нашага часу, аўтар пяці раманаў: "Крык на хутары", "Прызнанне ў забойстве", "Кветкі правінцыі", "Вочы і сон" і "Сава Дым і яго палюбоўніцы". Яго пяру належаць шматлікія апавяданні і навелы, цудоўныя казкі, каноны, афарызмы, яркія драматычныя творы: "Калі заспявае певень", "Кракаўскі студэнт", "Новыя прыгоды Несцеркі".

Сярод буйных *эпічных* твораў Г. Марчука асаблівае месца займае яго раман-споведзь "Кветкі правінцыі" (1986). Пісьменнік, бадай, упершыню ў нацыянальнай літаратуры здолеў стварыць яркі сінтэтычны твор, у якім гарманічна спалучаныя ўспаміны, спавядальнасць, дэтэктыўнасць, а таксама элементы бытавога і сацыяльнага рамана.

Галоўны герой рамана — Адась Доля — вобраз шмат у чым аўтабіяграфічны. Пісьменнік крок за крокам прасочвае духоўнае сталенне героя, надзвычай пранікнёна перадае юнацкае каханне Адася, яго працяглае змаганне з хваробай, складаныя адносіны з бацькам, першыя літаратурныя спробы, жыццёвыя поспехі і няўдачы, хвіліны радасці і роспачныя моманты. Герой імкнецца высветліць прычыны самагубства маці, трагічны адыход якой з жыцця неверагодна паўплываў на душэўны стан юнака. Вельмі сімвалічная развязка рамана: герой разам з сям'ёй — сынам і жонкай — вяртаецца ў родны Давыд-Гарадок, дзе яму найбольш утульна і камфортна.

У рамане створана шмат яркіх вобразаў гарадчукоў — выдатных умельцаў, майстроў і гандляроў — сталяра Клубышко, старога Бабра, цёткі Сарокі, суседа Ткача, сёстраў Граноўскіх, мудрага Ваўка-пустэльніка, доктара Урбановіча. З замілаваннем Г. Марчук піша пра давыд-гарадоцкія кварталы з мілагучнымі назвамі — Аселіца, Радзічы, Гара, Пясок, Камора. На старонках твора шмат жартаў, забаўных гісторый, аповедаў пра разнастайныя анекдатычныя здарэнні.

Раман "Кветкі правінцыі" Г. Марчука адрозніваецца значнасцю сацыяльнай праблематыкі. Мастацкімі сродкамі пісьменнік паказаў, як бяздумная індустрыялізацыя прыводзіла да знішчэння традыцыйных рамёстваў. Спрэчка старшыні райвыканкама Аляксея Крутаярава і безыменнага сакратара райкама выяўляе два супрацьлеглыя падыходы да развіцця вёскі і малых гарадоў. Сакратар райкама — увасабленне пустой дэмагогіі, абыякавасці, фармалізму і бязглуздай артадаксальнасці. Яго галоўная мэта — "выкарчаваць мяшчанства і дробнаўласніцкую псіхалогію". Крутаяраў ідзе ад жыцця, кіруецца клопатамі і пажаданнямі людзей, настойвае на развіцці ў малых гарадах перапрацоўчых прадпрыемстваў і невялікіх заводаў, лічыць неабходным прызначаць на кіруючыя пасады энергічных, адказных і творчых людзей.

Г. Марчук праўдзіва і аб'ектыўна раскрыў грубасць і дзікасць улад, якія на месцах ажыццяўлялі антырэлігійнае змаганне. Замест асветы людзей, развіцця культуры і навучальных устаноў яны нічога не прыдумалі лепш, як спілоўваць уначы крыжы ды закрываць царквы. Натуральна, у адказ людзі выяўлялі поўную абыякавасць і грэблівае стаўленне да мясцовага кіраўніцтва.




Пісьменнік перадаў атмасферу агульнанароднага ўздыму пасля палёту ў космас Юрыя Гагарына. Пакарэнне космасу выклікала незвычайную радасць, гонар за савецкі народ, аказала незабыўнае ўздзеянне на падлеткаў і юнакоў, паўплывала на іх жыццёвыя планы: "А нас, падлеткаў, немагчыма было загнаць дахаты, мы сядзелі на лаўцы, глядзелі на зорнае далёкае неба, адчуваючы шчымлівы душэўны боль-асалоду, і бясконца марылі раскрыць тайны гэтай бязмежнай далечыні".

У рамане Г. Марчук выказаў глыбокую заклапочанасць станам экалогіі. Ён не прымае варварскага знішчэння прыроды, абураецца татальнай меліярацыяй, якая нанесла велізарную шкоду палескаму краю. Мастацкімі сродкамі пісьменнік паказаў, як паўсюдная хімізацыя атручвала зямлю, рэкі і азёры, зніжала культуру земляробства, наносіла непапраўны ўрон жывёлагадоўлі, разбурала асяроддзе, прыдатнае для жыцця людзей, на пратэсты і абурэнне якіх ніхто не зважаў.

Кульмінацыя сацыяльнай лініі рамана — сцэны знішчэння ўладамі прыватнага кветкаводства ў Давыд-Гарадку, культура якога выпрацоўвалася стагоддзямі. Пісьменнік пратэстуе супраць абвяшчэння карантыну ў Столінскім раёне, прыдуманага з мэтай забараніць людзям гандляваць насеннем кветак, пазбавіць іх спрадвечнага занятку.

Г. Марчук шмат разважае пра анталагічныя праблемы быцця, місію чалавека на зямлі, нацыянальную адметнасць беларусаў. Ён прыходзіць да слушнай высновы пра непаўторнасць кожнай асобы, адказнасць чалавека за ўласныя паводзіны і ўчынкі, неабходнасць тварыць дабро і ва ўсім кіравацца прынцыпамі справядлівасці і сумлення: "Кожны чалавек мусіць цярпліва змагацца за жыццё, усведамляць адказнасць за яго, за дзяцей, за род свой".

Закранаючы балючыя сацыяльныя і агульнаграмадскія праблемы, пісьменнік застаецца гуманістам і надзвычай патрабавальным найперш да сябе самога: "Дай мне, Божа, сілы разабрацца ва ўсім тым, каб сэрца маё не поўнілася злом і каб я не жадаў зла свайму люду".

> *Што ж застаецца, калі нічога не можа быць тваім — ні багацце, ні ўлада, ні здароўе, ні адносны спакой? Трэба ўзяць у настаўнікі Бога, настроіць сваё сэрца на лад дабрыні, велікадушнасці і рушыць насустрач Хаосу з пастаяннай любоўю ў душы да ўсяго жывога. Пакутаў і смерцяў на гэтым шляху будзе меней у таго, хто добры. Бессэнсоўна кіраваць жыццём. Трэба толькі назаўсёды ўсвядоміць, што ты сам з'яўляешся прычынаю гора і смерці і прычынаю радасці ды шчасця іншаму.*

Малыя літаратурныя формы пісьменніка тэматычна і стылёва надзвычай шматпланавыя. Выключную каштоўнасць уяўляюць найперш яго філасофскія казкі і апавяданні, у якіх пісьменнік працягвае і развівае нацыянальную традыцыю славутых "Казак жыцця" Якуба Коласа.

Цудоўная казка "Добрае сэрца" — мастацкае абгрунтаванне важнай філасофскай сентэнцыі: ніхто не павінен крыўдзіцца на людзей і на ўвесь свет, калі на яго долю выпадаюць цяжкія выпрабаванні. Пісьменнік слушна даводзіць, што людзі, якія ставяць высокія мэты, імкнуцца ў нябёсы, абавязкова сутыкнуцца з бар'ерамі і перашкодамі. Зарукай іх перамогі з'яўляецца чалавекалюбства, шчырасць памкненняў і дабрыня ў сэрцах.

Невялікае апавяданне "Апека" — яркае ўвасабленне адметнай сацыяльнай філасофіі Г. Марчука. Паводле яго мастацкай логікі, чалавек прыходзіць на зямлю з пэўнай місіяй, мае высокае прызначэнне. Богам і нябёсамі кожнаму, нават самаму незаўважнаму чалавеку, без прэтэнзій і амбіцый, абавязкова наканавана здзейсніць штосьці адметнае і яркае.

У апавяданні "Булачка" аўтар мастацкімі сродкамі выказвае надзвычай каштоўную і выключна гуманістычную ідэю пра талент, схаваны ў кожнай асобе. Маці прымушае дачку Аню паступаць у інстытут, кіруючыся меркаваннямі прэстыжу і ўласнымі ўяўленнямі пра шчасце. Але, як высветлілася, дзяўчына мела выключныя пекарскія здольнасці. У выніку яна з'язджае на далёкі ўсход і недзе губляецца. Галоўная задача бацькоў і педагогаў, робіць цалкам слушную выснову пісьменнік, — своечасова ўбачыць талент дзіцяці, дапамагчы яму напоўніцу раскрыцца. Ціск на асобу, прымус у выбары прафесіі — справа безнадзейная і шкодная.

У філасофскай навеле "Хаос" Г. Марчук выступае як мудры дарадца, дасведчаны чалавек. Сродак пераадолення ўнутраных крызісаў і адчаю ён бачыць у няспынным імкненні тварыць дабро. Пісьменнік дае слушныя парады тым, хто апынуўся ў стане разгубленасці, каго ахапіла паніка: "Што ж застаецца, калі нічога не можа быць тваім — ні багацце, ні ўлада, ні здароўе, ні адносны спакой? Трэба ўзяць у настаўнікі Бога, настроіць сваё сэрца на лад дабрыні, велікадушнасці і рушыць насустрач Хаосу з пастаяннай любоўю ў душы да ўсяго жывога. Пакутаў і смерцяў на гэтым шляху будзе меней у таго, хто добры. Бессэнсоўна кіраваць жыццём. Трэба толькі назаўсёды ўсвядоміць, што ты сам з'яўляешся прычынаю гора і смерці і прычынаю радасці ды шчасця іншаму".

Марчук выдатна выбудоўвае прыгодніцкія сюжэты, займальна распавядае пра лёсы людзей, з замілаваннем апісвае прыроду і палескія краявіды. Ён умее цікава перадаць багаты духоўны свет людзей, якія жывуць у правінцыі, пра што яскрава сведчыць апавяданне "На беразе Гарыні", дзе вельмі арганічна спалучаюцца ўспаміны дзяцінства і прыгодніцкі сюжэт, трагічнае і камічнае, сур'ёзнае і пацешнае.

Надзвычай удалыя навелістычныя творы "Ясельда", "Хвароба каралевы", "Як Несцерка злодзея правучыў". У іх пісьменнік умела выкарыстоўвае і апрацоўвае гістарычныя паданні і легенды, народныя показкі. З любоўю і асаблівым душэўным трымценнем напісаныя выдатныя навелы-каноны, прысвечаныя Богу, Гарыні, Хаце, Вуліцы, Агароду, Школе, Ветру, Базару, Часу і Маці. У звычайным і штодзённым назіральны пісьменнік умее ўбачыць прыгожае і велічнае, значнае і каштоўнае.

Навелы кахання: "Свята пачуцця", "Рэўнасць", "Адзінота", "У пошуках сэнсу" ўтвараюць адзіны літаратурны цыкл — "Урсула". У іх пісьменнік прадэманстраваў элегантнасць і пластычнасць стылю. Створаныя паводле біблейскай "Песні Песняў" і візантыйскіх хваласпеваў, навелы кахання Г. Марчука — паэзія ў прозе, гімн найглыбейшаму з чалавечых пачуццяў, вечнаму і несмяротнаму, як само жыццё.

Талент Г. Марчука як драматурга найбольш поўна выявіўся ў народнай камедыі "Калі заспявае певень", дзеянне якой адбываецца на Палессі ў пачатку XX ст. У цэнтры твора — светлае і чыстае каханне сялянскага хлопца Паўліка і дзяўчыны Кацярыны. Яны гатовыя пераадолець любыя перашкоды, ахвяраваць чым заўгодна, абы толькі быць разам. Драматург высмейвае тых, хто шукае шлюбу паводле разліку. Таўкачык — увасабленне празмернай шляхецкай ганарлівасці і апломбу — застаецца ў пройгрышы, бо кіруецца не пачуццямі, а толькі карыслівымі інтарэсамі. Г. Марчук выкрывае прадажнасць тагачаснай судовай сістэмы, паказвае грэблівае стаўленне народа да манахаў, якія прапаведуюць чысціню і бязгрэшнасць, а на справе дбаюць толькі пра ўласную карысць — каб добра выпіць і смачна паесці, пажадана за чужы кошт. Г. Марчук шырока выкарыстоўвае народныя выслоўі, вельмі часта стварае ўласныя ўстойлівыя выразы, стылізаваныя пад прыказкі і прымаўкі: "Розум у іх будзе, як у цяляці, і імі лёгка будзе кіраваці", "Усюды першая, ці ў рай, ці ў пекла".

Яшчэ адным творчым здабыткам Г. Марчука з'яўляецца яго дзённік, які выйшаў пад назвай "Салодкія слёзы" (2010). У ім пісьменнік дае надзвычай трапныя ацэнкі буйным грамадскім і палітычным падзеям, згадвае незабыўныя сустрэчы з цікавымі людзьмі, знамянальныя гутаркі з калегамі, разважае пра стан нацыянальнай літаратуры і перспектывы яе развіцця.

Як бачна, Георгій Марчук узбагаціў нацыянальную літаратуру мастацкімі творамі, якія маюць высокую эстэтычную каштоўнасць і вялікае выхаваўчае значэнне. Уласцівая пісьменніку творчая інтуіцыя, бліскучае валоданне словам, артыстычнасць, сацыяльны аптымізм, назіральнасць і неверагодная працавітасць з'яўляюцца трывалай зарукай таго, што чытачоў чакаюць сустрэчы з новымі творчымі здабыткамі майстра слова.

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Дзівосы ў вершах і верш як дзіва

**Першы верш Васіля Рагаўцова быў змешчаны ў 1967 г. у жлобінскай раённай газеце “Камуніст”. З наступнага года яго творы пачалі друкавацца ў часопісе для падлеткаў “Бярозка”. Публікавалі юнага паэта на старонках “раёнкі”. А потым… Як гэта нярэдка здараецца ў жыцці, расстанне з паэзіяй. Амаль на 20 год!**

За гэты час ён паспеў закончыць аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, абараніць кандыдацкую дысертацыю. І вось ужо больш як 30 год шчыруе ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. Куляшова. Тут ён стаў прафесарам, абараніў доктарскую дысертацыю. Выдаў з дзясятак навучальных дапаможнікаў для студэнтаў-філолагаў. Але самае, бадай, галоўнае — у 90-я гады да Васіля Рагаўцова вярнулася Муза, загаварыла мовай паэзіі ягоная душа. Зведаўшы “роспач, пакуты, сумненні”, ён “зноў нарадзіўся на свет” — як самабытны паэт са своеасаблівым бачаннем і ўспрыманнем свету. Ягоныя вершы ўсё часцей і часцей пачынаюць з’яўляцца на старонках рэспубліканскіх газет .

Ужо ў першым зборніку “Сутонне”, які пабачыў свет у 1995 г. у “Бібліятэцы часопіса «Маладосць»”, В. Рагаўцоў засведчыў пра сябе як пра самабытнага, таленавітага паэта. У рэцэнзіі на зборнік А. Марціновіч адзначыў такія асаблівасці яго паэзіі, як “філасафічная напоўненасць думкі” і “афарыстычная завершанасць”.

Гэтыя асаблівасці напоўніцу выяўляюцца ў наступных зборніках В. Рагаўцова: “Долягляд” (1998), “На роскрыжы дарог” (2008), “Імгненне і Вечнасць” (2010). Крытыкі адзначалі схільнасць аўтара да філасафізацыі рэчаіснасці (І. Штэйнер), трапнасць, часам нечаканасць абагульненняў, якія вызначаюцца лаканізмам, змястоўнасцю (В. Шур). Скандэнсаванасць і афарыстычнасць думкі асабліва характэрныя для твораў, якія нагадваюць класічныя формы ўсходняй паэзіі. Напрыклад: “Дым // з лагодаю абвівае // садовыя дрэўцы, // каб паўтарыцца // у іх першацвеце”; “І на люднай дарозе // пачуваю сябе самотнікам, // калі няма // спадарожнага ветру”.



Лепшыя вершы паэта вызначаюцца роздумам над пражытым і перажытым, знойдзеным і страчаным… А самае важнае — непаўторна-свежым успрыманнем навакольнага свету і па-мастацку глыбокім яго адлюстраваннем. Адзін з дзейсных паэтычных прыёмаў аўтара — кантраст, які дае магчымасць глыбока пранікнуць у таямніцы чалавечага жыцця, убачыць не толькі яго гармонію, але і супярэчнасці.

В. Рагаўцоў — тонкі лірык, які з дапамогай трапных мастацкіх дэталей здатны ствараць псіхалагічна насычаныя, запамінальныя малюнкі, што змушаюць чытача задумацца, паразважаць над праблемамі чалавечага жыцця:

*Палоніць музыка тваіх вачэй,*
*нібы вясёлка пасля*
*шчодрай навальніцы.*
*А голас твой —*
*як мілазвонная крыніца:*
*ён песняй жаўранка —*
*нястомнаю — бруіцца...*
*Як боль, святы ўспамін*
*душу пячэ.*
*І светла мне: жыву яшчэ...*
*Жыву!*

І. Штэйнер назваў В. Рагаўцова майстрам асацыяцый. Яны, аднак, не ўскладняюць твор, а, наадварот, сэнсава ўзбагачаюць яго. Невялікі памерам верш вызначаецца глыбокай думкай: “Яловыя лапкі на дарозе… // Сірацеюць людзі. // Сірацее лес”; “Выгнаннікі // чужой душы… // А яшчэ жахлівей, // калі — сваёй”. Адна з адметнасцей паэзіі В. Рагаўцова — “парадаксальнае” ўспрыманне рэчаіснасці. У некаторых вершах можна сустрэцца з “дзівосамі” ў прыродзе і чалавечым быцці: “На лугавіне // сірацее стажок, // завершаны // купкай туману”; “А меркнуць пагляды каханых — // і цямрэе ўсё навакольле: // і дрэвы, і росы… // І нават — сонца”.

Асобныя вершы паэта вызначаюцца адмысловай музычнасцю, што дасягаецца своеасаблівай рытмікай, а таксама адметнай гукавой арганізацыяй:

*Далёкае і такое блізкае...*
*Блізкае, а такое чужое...*
*Шчымліва рыпіць калыскаю,*
*паглядам-маланкай бліскае,*
*сцінае мяне тугою*
*блізкае мне і далёкае.*
*А сэрца трывожна ёкае:*
*далё-ё-кае, далё-ё-кае...*
*Галёкае,*
*як рэха*
*адзінокае.*

В. Рагаўцоў “улюбёны ў роднае слова, неабыякавы да яго, тонка адчувае яго адценні і значэнні” (А. Марціновіч). Але ён здатны сам стварыць наватворы, якія, на думку К. Камейшы, “не здаюцца нам ненатуральнымі, бо яны вынікаюць са зместу вершаў”: “шчодраць” (святло), “долягляд”, “адзісцела” (восень), “плыніць” (жыццё), “рэхапрастора” і інш. Як слушна адзначае І. Штэйнер, “звычайнае слова далягляд ён [В. Рагаўцоў] прачытвае як ДОЛЯГЛЯД, што стварае прыгожы цікавы вобраз, дзе спалучыліся натуральна і філасофскі пачатак, і натхнёнае гучанне”: “Жывых // да скону вучыць жыццё. // І на гэтай зямной пуцявіне — // залацінкі-імгненні // чалавечага шчасця. // А для тых, // хто сыходзіць за долягляд, // мімалётнае, плыннае // зліваецца з вечнасцю. // Як і яны самі”.

Хораша зарэкамендаваў сябе В. Рагаўцоў і як дзіцячы паэт. У зборніку “Адмыслоўцы” (2007) многія вершы пабудаваныя на абыгрыванні аднолькавых або блізкіх па гучанні слоў, у выніку чаго зрыфмаваныя словы і іх значэнне запамінаюцца лягчэй, напрыклад: “Так заліваецца заранка — // Падворак песняй поўніцца. // А за ракой зара-заранка // Успыхвае напоўніцу”; “Я для птушачкі аўсянкі / Кашкі навару — аўсянкі. / Вечарочкам мне аўсянка / Праспявае калыханку”.

Думаецца, на творчым шляху В. Рагаўцова будзе яшчэ шмат адкрыццяў і здзяйсненняў.

# Адна — са ста

Мікола МАЛЯЎКА

**Міхась Стральцоў, выдатны празаік і паэт, назваў свой зборнік апавяданняў “Сена на асфальце”. Гэта мастацкі вобраз: маюцца на ўвазе гарадскія вяскоўцы — маладыя хлопцы і дзяўчаты, прапісаныя ў горадзе. Вучацца ці працуюць тут, але не парвалі яшчэ сувязей з вёскай.**

Лірычная гераіня кнігі вершаў Вольгі Норынай — гараджанка. Маладая яшчэ, яна вымярае свой век не пражытымі гадамі, а перажытым за гэты час. У самым росквіце сіл і красы яна засталася адзінокай, сам-насам са сваімі думкамі і пачуццямі, прыгнечаная бытавой неўладкаванасцю і горычу няспраўджаных надзей: “Я городская трава, что прорывает асфальты”. Топчуць, збіваюць яе з раніцы да ночы, а яна ўпарта прабіваецца праз асфальт — насустрач сонцу, дажджу і ветру. Насустрач людзям.

Шмат сяброў было ў дзяцінстве і юнацтве. Лепшыя з іх рана пакінулі гэты свет. Часам у натоўпе як быццам мільгане знаёмы твар — і сэрца ўздрыгне, парыўна заб’ецца, каб праз хвілінку балюча зашчымець: не вяртаюцца тыя, на юнацтва якіх жалобна ўпалі “три горстки жёлтого песка”. Ім прысвечаныя спавядальна-шчырыя вершы. Гэта і паэтычныя некралогі, і ўдзячнасць за сяброўства, і вера, што яны і там, бліжэй да Бога, будуць спрыяць ёй, каб жыла доўга і годна, паспявала “возвращать долги свои земные”.

Не прынесла жаданага шчасця сямейнае жыццё. У паэтычных радках усё часцей прабіваюцца сум, расчараванне, боль, а потым і жалоба: “А любовь мою злою дождливою ночкой с пятаками встречает Харон-перевозчик”.

Здраджваюць, здавалася б, блізкія людзі. Познім вечарам, пасля кіно, халодна і няўтульна ў пустым асеннім скверы.

*Экран успыхнуў і пагас,*
*Чароўны, як куточак раю,*
*А некалькі экранных фраз*
*Усё яшчэ я паўтараю.*

Жыццё — не кіно. Хто адчыніць дзверы ў свет дабра і спагады? Ярка, але абыякава свецяцца вокны ў чужых дамах. І хочацца пакінуць горад, калісьці такі дарагі. Ды хіба можна ўцячы ад сябе самой, ад сваіх спадарожнікаў, жывых і тых, хто лёг у вечны цень нябыту?..

*Сустрэчы нашы сталі скарбам.*
*Успомню тых, што адышлі, —*
*І ўжо іначайззяюць фарбы*
*Жыцця, і неба, і зямлі.*
*Вярнуць бы ўсё і ўсіх, ды позна.*
*І больш за словы ўсе таму*
*Душу кранае ліст апошні,*
*Што ціха падае ў зіму.*

Паэзія — той выратавальны круг, які трымае ў моры неспакойнага жыцця, на хвалях лёсу. Яна гоіць душу і, галоўнае, дае магчымасць перайсці ад горкіх нараканняў да цвярозага роздуму над тым, як жыла раней і як належыць жыць далей, у будучым. Гэта вельмі важна: зразумець, што ты патрэбна сваім родным і блізкім дый незнаёмым людзям, якія заўтра, магчыма, стануць тваімі сябрамі, суседзямі.

Паэтэса падымаецца да ўласнага філасофскага погляду на жыццё асобнага чалавека і грамадства ў цэлым. Як у цудоўным вершы “Дождливый день. Гродно”.

*Костёлы, костёлы… Семнадцатый век.*
*На серых ступеньках — Господь? Человек?*
*Придавленный каменным чёрным крестом,*
*С протянутым в серое небо перстом.*
*Безмолвие серое всходит окрест.*
*И каждому давит на плечи свой крест.*
*И к Господу Богу взываем не раз,*
*Но крест не пушинка — взлететь нам не даст.*

*Не даст ни на миг позабыть нам о том,*
*Что мы — без креста — всё равно под крестом.*

На беларускую мову вершы В. Норынай пераклалі Мікола Шабовіч і аўтар гэтага водгуку. Арыгіналы вершаў і пераклады надрукаваныя побач, і чытачы могуць самі ацаніць іх вартасць.

Дзякуючы бардам Сяргею Панамарову і Тацццяне Рагозінай некаторыя вершы В. Норынай сталі песнямі. Супрацоўніцтва творчых людзей прыносіць жаданы плён. Сяргей Панамароў дапоўніў верш “Раманс” сваімі радкамі, і песня загучала на адным дыханні — прыгожа і чароўна, як голас двух сэрцаў.

Сама паэтэса так кажа пра свой творчы шлях:

*Пашанцавала іншым: іх вяло*
*Да спеўнай славы звонкае крыло.*
*А мой палёт згубіўся ў вышыні,*
*Сябрам вядомы толькі і радні.*
*Ну што ж, мы ўсе зарок спяваць далі,*
*І я — адна са ста*
*Тут, на зямлі.*

Адна са ста, голас якой усё часцей і адметней гучыць у нашай паэзіі.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Слова пра таварыша

Здаецца, зусім нядаўна сардэчна віншавалі яго, а ўжо наспеў яшчэ адзін, чарговы юбілей — 80 год… Юбілей пісьменніка, за плячыма якога доўгае, няпростае жыццё, гады плённай працы… Знамянальна: руплівую працу ён не пакідае і сёння, узначальваючы студыю ваенных пісьменнікаў Цэнтральнага Дома афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Я заўсёды здзіўляюся: колькі ў гэтым чалавеку маладой бадзёрасці, энергіі, імпэту, колькі сапраўднай дабрыні і зычлівасці выпраменьвае яго ўсмешлівы твар… Менавіта дабрыні! На памяць прыходзіць адзін верш Яўгена Каршукова, які так і называецца — “Дабрата”.

*Цаню ўсё больш я з кожным годам*
*Людскую дабрату на тварах.*
*Святыя людзі, іх лагода —*
*Яны жывуць не толькі ў марах.*

*Аблашчаць вочы мяккім ззяннем*
*Раптоўна, проста, без прычыны,*
*Нібы зірнуць вясновым раннем*
*З блакіту неба аблачыны.*

*І так мне добра, так я рады,*
*Настрой узнёслы, як дзіцячы.*
*За позірк ласкавай спагады*
*Я сам усіх гатоў аддзячыць.*

Гаворачы пра Яўгена Каршукова, яго чулліваць і спагадлівасць, з упэўненасцю сцвярджаю, што і ў творчасці ён такі, такія яго літаратурныя героі — добразычлівыя, спагадлівыя. Іх высокая маральнасць, добрыя ўчынкі выхоўваюць чытача, заклікаюць задумацца над праблемамі нашага жыцця. Пра гэта яскрава сведчаць і празаічныя кнігі юбіляра, і выдадзеная параўнальна нядаўна кніга вершаў “Над векавечным Бугам”. І тут, думаецца, не лішне нагадаць выказванні пра паэтычную творчасць Яўгена Каршукова, якія належаць акадэміку Уладзіміру Гніламёдаву (рэцэнзія друкавалася ў часопісе “Нёман”): “Паэзія ў параўнанні з прозай — свет лірычны, але Я. Каршукоў і ў вершах застаецца апавядальнікам, умее размаўляць, разважаць”. І далей, “слушна пазначана ў анатацыі да кнігі: «Асаблівае месца займаюць вершы, прысвечаныя роднай прыродзе, вёсцы, адкуль, як сведчыць паэт, пачынаецца яго малая Радзіма і Радзіма вялікая — “Белая Русь”». Яго паэтычныя далягляды, такім чынам, шырокія — ад далёкага дзяцінства на ўлонні прыроды да дзён сённяшніх, да сучасных трывог. Гэта яго, калі хочаце, біяграфія”.

Гаворачы пра творчасць празаіка, паэта, а таксама крытыка і перакладчыка, нельга не сказаць і пра яго гумарыстычныя творы: ён — “вожыкавец”. Так, так, працаваў у свой час не толькі галоўным рэдактарам выдавецтва “Юнацтва”, але і намеснікам галоўнага рэдактара часопіса “Вожык”, выдаў некалькі гумарыстычных зборнікаў, якія мелі поспех у чытачоў. Васіль Быкаў да аднаго з іх (“Пісьмо жонцы”) напісаў зычлівую прадмову, у якой адзначыў, што аўтар “валодае напрактыкаваным пісьменніцкім позіркам, пільным да заган жыцця, умее знайсці ў ім характары і сітуацыі — аб’екты яго выкрываючай іроніі, а то і злосці. Ва ўсякім разе мы разам з аўтарам ахвотна смяёмся над шмат якімі характарамі і сітуацыямі, апісанымі ў гэтай невялічкай кніжцы, і закрываем яе з пачуццём удзячнасці аўтару за некалькі хвілін асалоды і захаплення”.

Я таксама, дарэчы, некалькі гадоў працаваў у “Вожыку” і магу засведчыць, што жанр гумару і сатыры — няпросты, далёка не кожны з літаратараў валодае пяром гумарыста і сатырыка. Нашы літаратурныя сцежкі з Яўгенам Іванавічам збягаліся не раз: мы працавалі разам у выдавецтве “Юнацтва” і ў рэдакцыі часопіса “Нёман”, а цяпер супрацоўнічаем у галіне ваеннай літаратуры, абодва з’яўляемся лаўрэатамі літаратурных прэмій Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. І я шчыра, па-добраму зайздрошчу Яўгену Іванавічу — яго апантанасці, творчай энергіі. Вельмі рады яго актыўнасці. Ён ужо колькі год узначальвае рэдакцыйны савет альманаха “Армія і культура”. І робіць сваю справу, без перабольшання, выдатна. І ці толькі гэты “вайсковы” абавязак у яго як кіраўніка Студыі ваенных пісьменнікаў?! Мы, беларускія літаратары, шчыра ўдзячныя яму за шматлікія паездкі ў гарнізоны і вайсковыя падраздзяленні нашай арміі, на пагранічныя заставы, за незабыўныя сустрэчы з маладымі воінамі-абаронцамі Радзімы.

Будзе да месца сказаць і пра тое, што на Яўгена Каршукова дабратворны ўплыў зрабілі нашы знакамітыя класікі, з якімі ён некалі працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў Беларусі, — Іван Шамякін, Максім Танк, Іван Мележ і іншыя.



Мікола Антаноўскі

**Сваёй другой радзімай Мікола Антаноўскі лічыць Ганцавічы, а нарадзіўся ён 6 студзеня 1952 года ў вёсцы Сташаны Пінскага раёна. Закончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у ганцавіцкай і браслаўскай раённых газетах, з 1984 года — галоўны рэдактар пружанскай газеты “Раённыя будні”. Выдаў дзве кнігі паэзіі — “Святаяннік” і “Падсочаны бор”. Лірычны герой вершаў М. Антаноўскага мае абвостранае пачуццё трывогі за лёс палескага краю, неабыякавы да трагічных падзей нашага імклівага і жорсткага часу. Акрамя вершаў Мікола Антаноўскі піша нарысы, а за кнігу “Зялёная рапсодыя” творца атрымаў знак “Залатое пяро” Беларускага Саюза журналістаў.**

* * *

*І пах чабаровы,*
*І шал чабаровы*
*Сплывае за край пакрысе.*
*Пяшчотныя словы,*
*Наш цень вечаровы*
*Бярозка лістамі на дол атрасе.*

*Не з нашай замовы*
*Па мёд верасовы*
*Пчала апантаная больш не ляціць.*
*Журбота і верад —*
*Як зблытаны верас,*
*Што, бляклы, пад ветрам ля ног шамаціць.*

*Са слодыччу соты*
*І з горыччу соты*
*Пчаляр на зіму пакідае ў вуллі,*
*Каб потым вясною,*
*Кахання парою,*
*Уджаліць у душы нас пчолы змаглі.*

## Санеты для каханай

**1**

*Душой пасеяныя кветкі...*
*Іх не пабачыш, не кранеш рукой,*
*Ды толькі ведай: для цябе адной*
*Растуць іх цэлыя палеткі.*
*І хай, нібы ад горкай рэдзькі,*
*Паморшчыцца эстэт-пашляк і той,*
*Хто лічыць іх хімернаю журбой, —*
*Табе, табе дарунак рэдкі!*

*Хай трызніць казкай нашая зіма,*
*Калі нудота просіцца сама*
*Зусім не госцяй — гаспадыняй,*
*О, як тады патрэбна скроні скронь!*
*О, як да месца зноў вяргіня*
*На схіле сноў начных і ясных дзён!*

**2**

*На схіле сноў начных і ясных дзён*
*Прыходзіць зноў жаданы ранак*
*З усмешкай мілаю каханай*
*І сонцам расфіранеых акон.*
*Зрунелае пяшчотнасці загон*
*Пералапачваю старанна,*
*Я — твой прыгоньны, мая панна,*
*Мне даспадобы гэтакі прыгон!*

*Якою меркай волю мерыць?*
*Не страшна ўласны лёс даверыць*
*Таму, хто не адводзіць свой пагляд,*
*Калі ў трымценні шлюбнай свечкі*
*Пад купал, дзе сышоўся далягляд,*
*Паклічаш ты пяшчоту ў сведкі.*

**3**

*Паклічаш ты пяшчоту ў сведкі,*
*Калі скразняк павее ледзяны,*
*І нераскручаны сувой віны —*
*Пасаг ад зайздрасці-какеткі —*
*Без марных слоў, без фразаў едкіх*
*Глыбей схавае куфар таямны,*
*Каб засцярога золакам вясны*
*Часцей прыходзіла ў адведкі,*

*Каб салавей, пяюн і дырыжор,*
*Настройваў сэрцы толькі на мажор*
*І спевам для адной-адзінай*
*Гнаў прэч ляноту ложка і скрозь сон*
*Засведчыў ранішняй гадзінай,*
*Што я, шчаслівы, здаўся ў твой палон.*

* * *

*Колькі радасці і колькі волі!*
*Ёсць каму і што аберагаць —*
*У спакой засеянага поля*
*Вольна ступіць босая нага.*

*І пакуль зярняты-залацінкі*
*Саграюцца спевам жаўрукоў,*
*Нам пракладваць новыя сцяжынкі*
*У палях з блакітам васількоў.*

*І пакуль асот віны не коле,*
*З ніадкуль прыходзіць, сам сабой,*
*І спакой засеянага поля,*
*І душы расчулены спакой…*

* * *

*Крочыць адно па слядах —*
*Што, чалавек, з табой стане?*
*Людзі — не птушкі: свой шлях*
*Выбраць у неба не ў стане.*

*Людзі — не птушкі?.. І ўсё ж,*
*Калі не вабіць бясконцасць,*
*Неба тады — толькі сонца,*
*Неба тады — толькі дождж.*

*Гэтага, мусіць, замала,*
*Каб зразумець, для чаго*
*Знічка у возера ўпала*
*Ціха, без следу свайго.*



Фота Кастуся Дробава



Аляксандр Быкаў

* * *

Л. Малахоўскай

*Вецер лютаўскі, пранясі*
*Міма хаты самоту і скруху.*
*І няхай зноў пашчасціць Люсі,*
*Не збракуе пяшчоты і духу.*

*Нарачанскае хвалі напеў —*
*Успамінам кранае ён струны.*
*Дзень, бы свечка, ушчэнт дагарэў,*
*Толькі ранак пагрукае юны.*

*Прагнуць кветкі і травы расы,*
*Моўчкі слухаючы завіруху...*
*Вецер лютаўскі, пранясі*
*Міма хаты самоту і скруху.*

* * *

*Барануй, а затым барані*
*Сваё поле жыццёвае…*
*Час заўсёды збіраць камяні,*
*Покуль рукі не кволыя.*

*Не лянуйся, дамоў пазвані*
*З мегаполіса тлумнага.*
*Час заўсёды збіраць камяні,*
*Як не сеяў разумнага.*

*Калі чэзнуць твае карані,*
*Хто там крайні заступіцца?*
*Час заўсёды збіраць камяні:*
*І маліцца, і рупіцца.*

*Ёсць для кожнага камень. Скрані.*
*На высокіх нябёсах залічыцца.*
*І яшчэ сёе-тое напішацца —*
*Час заўсёды збіраць камяні!*

## Душа

*Душа мая колецца,*
*быццам асцё,*
*Захочацца плакаць раптам…*
*З яе слой за слоем*
*здымала жыццё,*
*Адна засталася храпка.*
*Якую і вусень не сточыць ніяк,*
*Ці іншыя гады-злюкі…*
*Душу я сваю аддаю за так —*
*У добрыя рукі!*

## Зорка

*Зорка-драпежніца зноў*
*над зацемненым стогам*
*Моўчкі цікуе, каб выбраць*
*некага з нас.*
*Колькі вякоў мы спрабуем*
*дамовіцца з Богам.*
*Колькі вякоў на пагостах*
*крыжуе ў адказ…*

## Самота

*Дзень дажджлівы*
*самоціць душу —*
*Дню ўчарашняму*
*я зайздрошчу.*
*І, здаецца, нічога*
*не напішу.*
*Не дарую, не саграшу.*
*Не адпомшчу…*

*Ды апошняю хмаркай*
*стлеў*
*Гэты дзень,*
*што мне даўся ў знакі…*
*Каб пасласць зноў прамень*
*з-за сцяны залеў.*
*Бо сваё яшчэ не адтрымцеў.*
*Не адплакаў.*



Рэгіна Багамолава

## Ражаство

*Містэрыя святога Ражаства,*
*Чаканне першай зоркі на нябёсах,*
*Сугучнасць сэрцаў і душы узнёсласць,*
*Містэрыя святога Ражаства.*

*Сняжынкі ўсю аздобілі зямлю*
*Адбіткамі ад зоркі віфлеемскай,*
*Наўкол настрой гармоніі ўсяленскай,*
*Сняжынкі ўсю аздобілі зямлю.*

*Люблю я свята Божага Раства,*
*Яно нясе любоў і міласэрнасць,*
*Духоўнае святло знішчае шэрасць,*
*Люблю я свята Божага Раства.*

* * *

*Прыемны ладанавы пах,*
*На абразах святыя лікі.*
*Да Храма ў кожнага свой шлях,*
*Каму малы, каму вялікі…*

*Нябёсаў музыка гучыць,*
*Жыве ў духоўным песнапенні,*
*А белы голуб узляціць –*
*Душа сканае ачышчэнне…*

*Халоднасць лікаў абразоў*
*Цяпло ад свечак растапляе.*
*У храм прыходжу зноў і зноў,*
*Бо тут душу я спаталяю.*

## Касцёл у Гервятах

*У небе аблокі,*
*як быццам з цукровае ваты,*
*І вострыя шпілі*
*вартуюць бязмежны прастор, —*
*Узнёсла святочны*
*будынак касцёла ў Гервятах*
*Пад гукі аргана*
*нібыта ўзлятае да зор.*

*Тут дойлід нябесны*
*пакінуў адбіткаў багата,*
*І зерне святое*
*рассыпаў па свежай раллі, —*
*Шляхетна прыгожы*
*будынак касцёла ў Гервятах*
*Жамчужынай ззяе*
*на гэтай спрадвечнай зямлі.*

*У небе аблокі,*
*як быццам з цукровае ваты,*
*Касцельныя вежы*
*між імі, нібы караблі,*
*Тут рай на зямлі,*
*і да Бога бліжэй у Гервятах,*
*У ціхім куточку*
*найлепшай у свеце зямлі.*

## Ля музея Купалы

*Ля музея Купалы*
*стакроткі заўчасна цвітуць.*
*На газоне яны*
*матылькамі пужлівымі селі.*
*Вераснёвыя ночы*
*маркотна аб нечым гудуць,*
*Ды вятрыска гайдае*
*галіны, нібыта арэлі.*

*Знепрытуленасць дрэваў*
*маю спусташае душу,*
*На шалёных вятрах*
*не дае разгарэцца цяпельцу.*
*Міласэрнасці сёння*
*я ў восені ціха прашу,*
*Каб апошнія промні*
*сагрэлі самотныя сэрцы.*

*Каб халоднай зімой*
*загарнуцца ў маёвы ўспамін*
*Пра пяшчоту пялёсткаў*
*стакроток, запозненых кветак,*
*Ля музея Купалы,*
*дзе ў чэрвені бэз і язмін*
*Будуць ціха шаптацца,*
*ў святочныя строі адзеты…*

* * *

*На крохкіх гурбах*
*Студзеньскіх снягоў*
*Імя свайго кахання напісала.*
*Мае недаўгавечныя скрыжалі*
*Завея апантана замятала —*
*Сумёты выраслі зноў і зноў…*

*Ды мройнай я надзеі не губляю,*
*Што надпіс той*
*Пад снегам будзе жыць.*
*Увесну, стаўшы талаю вадой,*
*Ён на зямлі імкліва пабяжыць*
*І прарасце зялёнаю травой…*

*Мне явай сон*
*З купальскім лугам росным,*
*Дзе травы шэпчуць*
*Светлае імя…*

# На мяжы дзесяцігоддзяў

**Напрыканцы мінулага года прайшла V Міжнародная канферэнцыя выдаўцоў, паліграфістаў і распаўсюднікаў друкаванай прадукцыі "Рынак друку Беларусі ва ўмовах фарміравання адзінай эканамічнай прасторы з Расіяй і Казахстанам". Падчас форуму прагучалі розныя даклады, у ліку якіх — выступленне дырэктара Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алены Івановай. Алена Вітальеўна пазнаёміла прысутных з вынікамі даследавання кнігавыдання краіны за 2001 — 2010 гады. Пагадзіцеся, тэма надзвычай цікавая. Каб даведацца больш пра вынікі даследавання, а таксама папярэднія ацэнкі сітуацыі ў галіне ў 2011 годзе, наш карэспандэнт сустрэлася з Аленай Івановай. Асабліва актуальнай гэтая гутарка выглядае на пачатку Года кнігі.**

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Кастуся Дробава**

**— Алена Вітальеўна, падчас канферэнцыі вы прадставілі даклад, у якім распавялі пра асноўныя працэсы ў кніжнай справе краіны за першыя дзесяць год новага стагоддзя. Што паслужыла асновай для атрымання такіх вынікаў?**

— Мы правялі статыстычнае даследаванне, што з'яўляецца лагічным працягам двух папярэдніх, якія ахопліваюць перыяды з 1981 па 1990 гг. і з 1991 па 2000 гг. І вось цяпер — з 2001 па 2010 гг. Гэта адмысловы перыяд, якому папярэднічала станаўленне ў 1990-я гады новай выдавецкай сістэмы Беларусі як суверэннай дзяржавы. Да гэтага доўгі час выдавецтвы знаходзіліся пад кантролем дзяржавы, а ў 1990-я практычна сталі прыватнымі, што ў выніку прывяло да значнага росту колькасці выдаўцоў у Беларусі. Яшчэ ў часы СССР з 1987 па 1990 гады ў Беларусі функцыянавала 11 дзяржаўных выдавецтваў, падпарадкаваных Дзяржаўнаму камітэту па друку, і так званы "сектар ведамасных выданняў" (міністэрствы, камітэты, арганізацыі і прадпрыемствы з правам выдавецкай дзейнасці). У 1991 годзе з'явіліся першыя недзяржаўныя выдавецтвы. З сярэдзіны 1992 года гэты від дзейнасці ў Беларусі стаў ліцэнзуемым. Да пачатку 2011 года 837 арганізацый і прадпрыемстваў атрымалі правы выдавецкай дзейнасці. Але, што цікава, мы заўважылі характэрную тэндэнцыю дзесяцігоддзя — штогод гэтае права рэалізуюць не больш як 50 працэнтаў ліцэнзіятаў, і каля 25 працэнтаў з іх выпускаюць адну-дзве кнігі на год.

**— Зазвычай вельмі яскравым паказчыкам з'яўляюцца лічбы. Як у колькасным выражэнні можна прадставіць вынікі дзейнасці выдаўцоў?**

— У 2001 — 2010 гг. на тэрыторыі Беларусі было выдадзена 105 096 назваў кніг агульным тыражом 472,7 мільёна асобнікаў. Сярэдні тыраж адной кнігі — 4,5 тысячы экзэмпляраў. Калі параўноўваць з папярэднім дзесяцігоддзем (1991 — 2000 гг.), то назіраем наступнае: па колькасці назваў кніг павелічэнне больш як на 143 працэнты, але памяншэнне прыкладна на 30 працэнтаў па тыражы. Пры тым, што сярэдні тыраж адной кнігі зменшыўся больш як на 70 працэнтаў. У азначаны перыяд было выпушчана ў сярэднім 49 кніг на аднаго жыхара Беларусі.

**— Ведаю, што дагэтуль у Беларусі не разглядаўся такі паказчык, як колькасць новых і паўторных выданняў (перавыданняў). Але вы пра гэта распавядаеце.**

— Паказчык сапраўды цікавы і важны, ён шырока ўжываецца ў еўрапейскіх краінах і сведчыць, па-першае, пра аб'ём новай інфармацыі, якая ўводзіцца ў карыстанне праз кнігі; а па-другое, колькасць перавыданняў у вызначанай ступені таксама характарызуе выдавецкую палітыку краіны: ці ўмеюць знаходзіць кнігі, адпаведныя чытацкаму попыту, і як выдавецтвы імкнуцца задаволіць гэты попыт. Сёння перавыдаць кнігу досыць проста. Калі раней трэба было захоўваць арыгінал-макет, то цяпер дастаткова захаваць толькі камп'ютарны файл. Быў бы попыт. Лічыцца, што ў краінах, дзе досыць высокі агульны выпуск кніжнай прадукцыі, назіраецца некаторае паніжэнне ўдзельнай вагі новых выданняў. Падобную тэндэнцыю мы назіраем і ў Беларусі. Так, калі ў 2001 годзе ўдзельная вага першых выданняў складала каля 94 працэнтаў, то ў 2010 годзе гэты паказчык знізіўся да 87 працэнтаў. Але трэба мець на ўвазе, што ў большасці краін, і ў Беларусі таксама, у лік паўторных выданняў не ўключаюцца публікацыі, якія не маюць ніякіх змен у змесце і форме ў параўнанні з першым выданнем. Такія кнігі наогул не ўлічваюцца статыстыкай у якасці асобнага выдання, калі яны выпушчаны ў межах аднаго каляндарнага года.

> *У 2001 — 2010 гг. на тэрыторыі Беларусі было выдадзена 105 096 назваў кніг агульным тыражом 472,7 мільёна асобнікаў. Сярэдні тыраж адной кнігі — 4,5 тысячы экзэмпляраў. Калі параўноўваць з папярэднім дзесяцігоддзем (1991 — 2000 гг.), то назіраем наступнае: па колькасці назваў кніг павелічэнне больш як на 143 працэнты, але памяншэнне прыкладна на 30 працэнтаў па тыражы. Пры тым, што сярэдні тыраж адной кнігі зменшыўся больш як на 70 працэнтаў. У азначаны перыяд было выпушчана ў сярэднім 49 кніг на аднаго жыхара Беларусі.*



**— У краіне апроч традыцыйных кніг выпускаюцца іншыя выданні: карты, ноты, плакаты. Яны падлягаюць уліку?**

— Так, яны ўлічваюцца асобна. У 2001 — 2010 гг. Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі зарэгістравана 5975 аўтарэфератаў дысертацый, 750 нотных выданняў, 1638 карт і атласаў, 4121 выданне па выяўленчым мастацтве.

**— Існуе такое паняцце, як "шэрая" літаратура. Якія кнігі ўваходзяць у гэтую групу?**

— Выданні "шэрага" сектара мы адносім да групы ведамаснай літаратуры. Гэта па сутнасці тыя ж кнігі, але яны знаходзяцца па-за межамі традыцыйнага кнігавыдання і гандлёвага таваразвароту. Яны маюць абмежаваны маштаб выкарыстання, носяць часовы або дапаможны характар, таму іх цяжка выявіць і атрымаць. Гэта розныя інфармацыйныя, інструктыўныя, навучальныя, метадычныя, нарматыўныя, рэкламныя матэрыялы. Тэндэнцыі сённяшняга дня такія, што падобных выданняў выпускаецца шмат. І на гэта існуе шэраг аб'ектыўных прычын. Сродкі паліграфічнага выканання сталі даступныя, для іх набыцця не патрабуецца ліцэнзія, не патрэбна адмысловая прафесійная падрыхтоўка спецыялістаў, праграмы набору і вёрсткі тэкстаў можа засвоіць амаль кожны, хто валодае навыкамі працы на камп'ютары. Таму нельга недаацэньваць уплыў "шэрай" літаратуры на выдавецка-паліграфічны комплекс. Толькі ў 2010 г. пабачыла свет 7,5 тысячы ведамасных выданняў тыражом 13,5 мільёна асобнікаў, выпрацаваных у "шэрым" сегменце. Нягледзячы на тое, што такія выданні не паступаюць у гандаль, не праходзяць індывідуальную бібліяграфічную апрацоўку, яны па лініі абавязковага асобніка паступаюць у Кніжную палату, падлягаюць статыстычнаму ўліку і захоўванню ў Архіве друку.

**— А якія выдавецтвы за гэты перыяд былі самымі актыўнымі і прадуктыўнымі?**

— Лідар у нас кожны год адзін і той жа — выдавецтва "Харвест", якое каля 80 працэнтаў прадукцыі выпускае сумесна з расійскімі выдаўцамі альбо друкуе яе на расійскай паліграфічнай базе. За перыяд з 2001 па 2010 год "Харвест" выпусціў 25 890 назваў кніг тыражом больш як 204 мільёны асобнікаў. А гэта — прыкладна 25 працэнтаў сукупнага выпуску кніг па назвах і 43 працэнты — па тыражы. Пагадзіцеся, гэтыя лічбы гавораць пра многае, напрыклад, пра тое, што сітуацыя ў галіне шмат у чым залежыць толькі ад аднаго выдаўца, хоць у цэлым лічыцца, што ў краінах з рынкавай эканомікай асноўная доля выпуску кніжнай прадукцыі засёды прыходзіцца на параўнальна невялікі лік прадпрыемстваў.

**— Пытанне тыражу, напэўна, адно з самых балючых. Якія тэндэнцыі назіраюцца ў гэтых адносінах?**

— Цікава, што ў 2001 — 2010 гг. выданні, што выпускаюцца невялікімі тыражамі, да 500 асобнікаў, складаюць 40 працэнтаў ад агульнай колькасці назваў кніжнай прадукцыі за 10 гадоў. Аднак сума іх накладу не перавышае 2 працэнты ад агульнага тыражу кніжнай прадукцыі. У асноўным гэта літаратура, якая не мае шырокага распаўсюджвання на рынку. Аднак характэрна і значна, што ў гэтую групу трапляюць і навуковыя выданні, сярэдні тыраж якіх за 10 гадоў знізіўся на 65 працэнтаў і склаў у 2010 г. 176 экзэмпляраў. Таксама варта звярнуць увагу на кнігі, што выпускаюцца накладам звыш 100 тысяч асобнікаў. Нават у коле прафесіяналаў такія лічбы выклікаюць здзіўленне. Так, у 2001 — 2010 гг. было выпушчана 288 назваў такіх "шматтыражных" выданняў сукупным тыражом 43,3 мільёна экзэмпляраў. У асноўным гэта кнігі брэндавых замежных аўтараў: Стэфані Маер, Дэна Брауна, Міхаіла Велера, што пабачылі свет у буйных выдавецтвах, такіх, як "Харвест", а таксама школьныя падручнікі, выпушчаныя выдавецтвам "Народная асвета" і Нацыянальным інстытутам адукацыі па дзяржаўным заказе.

**— На якіх мовах друкуюцца кнігі ў Беларусі? І якое месца па колькасці займае беларускамоўная літаратура?**

— За дзесяцігоддзе, што мы разглядаем, у нашай краіне пабачылі свет кнігі больш як на 30 мовах. Больш за ўсё кніг выпускалася па-руску — 85,5 працэнта. Доля кніг на беларускай мове ў агульнай колькасці выданняў застаецца практычна аднолькавай на працягу 10 гадоў — 8,5 працэнта; на замежных мовах — каля 6 працэнтаў.

**— Калі зірнуць на мінулы 2011 год, якія тэндэнцыі можна заўважыць у галіне?**

— Канчатковыя вынікі кнігавыдання 2011 года пакуль не падведзены, бо кнігі за папярэдні год яшчэ некаторы час будуць паступаць у Кніжную палату і ў 2012 годзе, пакуль не "закрыюцца" ўсе статыстычныя справаздачы выдаўцоў — часам на стыку двух гадоў выдаўцы ўключаюць у справаздачнасць выданні, якія па пэўных прычынах яшчэ не пабачылі свет, напрыклад, адбылася непрадбачаная сітуацыя з друкаваннем тыражу ў тыпаграфіі. Сёння можна казаць толькі пра вынікі за 9 месяцаў 2011 года (студзень — верасень) у адносінах да аналагічнага перыяду 2010 года. Колькасць назваў кніг павялічылася на 0,4 працэнта, а тыраж зменшыўся на 17,2 працэнта. Калі паглядзець на нашых суседзяў, то ў Расіі колькасці назваў павялічылася на 4,1 працэнта, а тыраж зменшыўся на 3,5 працэнта. Ва Украіне пабачыла свет на 3 працэнты назваў кніг больш, але іх тыраж зменшыўся на 0,7 працэнта. Гэта значыць, тэндэнцыя росту назваў і падзення тыражоў застаецца стабільнай.



# Імкнуцца да мары

## «Незвычайная казка Шахразады» на сцэне сталічнага Рускага дзіцячага тэатра

**Кацярына ВАРОНІНА**

Яшчэ зусім малады, але ўжо відавочна памацнелы і сфарміраваны на беларускай тэатральнай сцэне Рускі дзіцячы тэатр радуе сучаснага юнага гледача дзівоснай і яркай пастаноўкай "Незвычайная казка Шахразады". Кіраўнікі дзіцячага тэатра і яны ж аўтары інсцэніроўкі, творчыя і сапраўды таленавітыя людзі, — Мікіта Рулёў ды Алена Карэліна. Спектаклі тэатра арыентаваныя на дзіцячую аўдыторыю ад 3 да 12 гадоў. Тэатральныя пастаноўкі тут ладзяцца на рускай мове.

Першае, што адразу прыцягвае да сябе ўвагу ў спектаклі "Незвычайная казка Шахразады", — сцэнаграфічнае вырашэнне мастака Ларысы Рулёвай. Каляровая арганза, усходні дыван, мноства розных па форме падушак, трон уладара. Мастацкае афармленне сцэны выкананае ў плане аднаго пакоя — гасцёўні, у якой і адбываецца дзеянне ўсёй пастаноўкі. Незвычайныя, нібы з казачнай краіны, паўстаюць на сцэне акцёры ў яркіх і прыгожых касцюмах загадкавага Усходу. Улічана кожная дробязь: біжутэрыя, сумачкі, ружанец, кніга-малітоўнік.

Музычнае афармленне казкі ствараецца невялікімі фанаграмнымі песнямі ад "імя герояў" спектакля. Харэаграфічнае вырашэнне падкрэслівае атмасферу любові і чараўдзейства.

Рэжысёр пастаноўкі Уладзімір Рулёў трапна вызначыў акцёрскі склад. Знаныя прафесіяналы Андрэй Кавальчук (Візір), Раіса Сідорчык (Шахразада), Віктар Багушэвіч (Каліф), а з імі поруч — маладыя акцёры Юлія Сурмейка (Джаміля) і Дзмітрый Мядзведзеў (Фарыс). Як і ў кожнай казцы, тут прысутнічаюць дабро і зло, станоўчы персанаж і адмоўны, якім з'яўляецца ў спектаклі Візір у выкананні Андрэя Кавальчука. Яму на прафесійным акцёрскім шляху спадарожнічаюць драматычныя ролі з "дарослага" рэпертуару. У дзіцячым тэатры Андрэй Кавальчук пераканальна і з прыкметнай нотай камізму іграе злога, карыслівага персанажа. Артыст раскрываецца як майстар пераўвасаблення. Візір у яго выкананні — яркі, запамінальны.

Таямнічая Шахразада (Раіса Сідорчык), загадкавая і мудрая, заўсёды гатовая выслухаць, дапамагчы, але такім чынам, каб кожны чалавек дасягнуў праўды і дабра сам. Пяшчотна і меладычна Шахразада распавядае казкі вялікаму Каліфу, які зачаравана прыслухоўваецца да кожнага яе слова. Ды і седзячы ў глядзельнай зале, пад голас казачніцы Шахразады і насамрэч пераносішся думкамі ў пустэльню — валадарства пяскоў, вятроў...

Маладая дачка Каліфа Джаміля ў выкананні Юліі Сурмейкі далікатная і прыгожая. Яна не хоча замуж за багатага гандляра, купца ці падобных да іх. Яе не хвалюе той велізарны пасаг, які за яе прапаноўваюць. Джаміля ўпартая і строгая перад бацькам. Яна марыць кахаць і быць каханай, выйсці замуж за шчырага, добрага чалавека.

Юны і абаяльны Фарыс (Дзмітрый Мядзведзеў) па ўсім свеце шукаў дзяўчыну са свайго сну, сваю каханую. Ёю аказалася Джаміля. І цяпер, знайшоўшы адно аднае, закаханыя больш не расстануцца.

Але галоўнае слова ўсё ж застаецца за Каліфам, ролю якога выконвае Віктар Багушэвіч. Герой спектакля павінен дапамагчы шчасцю любай дачкі. Ён успамінае, што ж было ў казцы Шахразады, расказанай яму мінулай ноччу. Хоча знайсці для Фарыса ратаванне ад смерці і падносіць да вуснаў юнака ажыўляльнае малако чароўнай вярблюдзіхі. І — цуд: Фарыс ажывае. У выніку свайго злога намеру карыслівы Візір становіцца выгнаннікам. Джамілі наканаваны шлюб з яе каханым, а Каліф шчаслівы за сваю дачку.

Спектакль Рускага дзіцячага тэатра цікавы не толькі юнаму гледачу, але і дарослай аўдыторыі. Пастаноўка запамінальная, а галоўнае, актуальная сваёй праблематыкай: канфлікт бацькоў і дзяцей, дабра і зла, пошук сапраўднага кахання. Казка нясе ў сабе як павучальны, так і выхаваўчы патэнцыял. Дапамагае разумець і любіць людзей, а таксама ісці да канца за сваёй марай.

*На здымку: сцэна са спектакля "Незвычайная казка Шахразады".*

# Няўлоўныя матылькі лёсу

**Ала ДАРАШЭНКА**

**Гомельскі абласны драматычны тэатр працягвае слаўныя традыцыі ўвасаблення на сцэне беларускага паэтычнага слова. Сёлета была інсцэніравана аповесць Івана Шамякіна "Тандлярка і паэт", ажыццёўлена кампазіцыя паводле песень пра вайну. А да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча пастаўлены спектакль "Максім і Магдалена".**

Тэатр пільна шукаў адпаведную драму з жыцця класіка. Цікавы рэжысёр і акцёр, які ўжо мае неблагі досвед у гэтай сферы, В. Чэпелеў узяў за аснову аповесць Я. Конева, адаптаваўшы яе да ўласнай канцэпцыі. Тэкст давялося значна скараціць, хаця лінія кахання, сацыяльна-псіхалагічныя канфлікты захаваныя ў спектаклі і ўдала раскрываюцца ў працэсе развіцця сюжэта.

Спектакль узнаўляе апошнія гады жыцця М. Багдановіча. Цёмная сцэна. Стол з запаленай свечкай. Перад гледачамі з'яўляецца самотная постаць паэта, які знаходзіцца ў глыбокім роздуме (акцёр Р. Жураўлёў вельмі дакладна перадае найтанчэйшыя рухі душы свайго героя). Сум падкрэслівае адпаведная сцэнаграфія. Пакой для бедных студэнтаў знешнім выглядам цалкам адпавядае ўнутранаму стану героя. Нават святло здаецца шэрым і халодным. Дакладнай рэалізацыі задумы спрыяе і вобраз гаспадыні пакоя: у ім падкрэсліваюцца толькі сквапнасць, прага нажывы і адпаведная гэтаму жорсткасць у словах, дзеяннях, нават у маўчанні (артыстка Г. Вевер).

Матыў антаганізму паміж геніем і натоўпам падкрэсліваецца сцэнай, дзе гаспадыня разважае пра тое, як прадаць рукапісы і кнігі яшчэ жывога паэта.

Наогул, прыём кантрастаў — святла і цемры, жыцця і смерці — робіцца вызначальным у спектаклі. Змрочнаму настрою Ялты супрацьпастаўлена светлая часіна Яраслаўля, смяротнай хваробе — шчасце кахання.

Ванда Андрэеўна (артыстка Т. Шабалтас) — галоўная гераіня п'есы, выхаваная і самастойная паненка. Знаёмства з Максімам адбываецца ў доме Какцэвіча (артыст В. Цітоў). Маладая паненка адразу запала ў "кніжную душу" Багдановіча. Ванда верыць у лёс. Яна задумала: калі зловіць матылька — зловіць сваё шчасце. Але шчасце не давалася ў рукі дзяўчыны… Не давалася да таго часу, пакуль яна не сустрэла Багдановіча. Ён дапамог злавіць матылька яе лёсу. Для Ванды матылёк — гэта сімвал шчаслівага жыцця. А ці атрымала яна гэтае шчасце?

Жыццё раскідала Максіма і Ванду ў розныя куткі. Але каханне не гіне. Той час, калі не бачыліся паэт і паненка, шмат чаго змяніў у іх жыцці. Яны пісалі лісты адно аднаму, аднак у Ванды была ўжо сям'я і маленькая дачушка. А Максім… У Максіма пагаршалася здароўе, яго жыццё ўмомант магло трагічна абарвацца: сухоты ж на той час не вылечваліся. Memento mori (памятай пра смерць) увасабляе ў спектаклі жанчына ў белым (артыстка Л. Госцева), што ценем ходзіць за героем.

Ванда так і не зведала шчасця побач з мужам. Шарачковы раўнівец, ён аднойчы знайшоў усе тыя лісты, што пісаў да яго жонкі Багдановіч. І, раззлаваны, ледзь не застрэліўшы Ванду, ён па-свойму вырашыў адпомсціць паэту. Сцэна, дзе мужчыны па чарзе "стралялі" з пісталета ў галаву сабе, пакуль куля не вылеціць, — дастаткова напружаны момант у драме. Якую ж незвычайную моц мае каханне! Дзеля Ванды Багдановіч выстаяў, гледзячы смерці ў вочы (ён не ведаў, што стрэлы былі халастыя).

І вось каханыя разам… Здаецца, што ўжо нічога не стаіць на іх шляху, але жанчына ў белым назаўсёды забірае паэта.

Пастаноўка вызначаецца моцным мастацкім уздзеяннем. Акцёры справіліся са сваёй задачай. Спектакль, прысвечаны юбілею Максіма Багдановіча, адбыўся і застанецца, безумоўна, у памяці гледача светлай падзеяй.

# Тут святкуюць, хітруюць і…

## Купалаўцы зладзілі прэм'еру «Ноч на Каляды»

**Кацярына ВАРОНІНА, фота Аляксандра Дзмітрыева**

Мікалай Гогаль для тэатра заўсёды быў асобай загадкавай. Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы не ўпершыню спрабуе гэтую загадку разгадаць і ў сёлетнім сезоне звяртаецца да творчасці класіка.

"Ноч на Каляды" — адна з самых цікавых і жыццярадасных аповесцей М. Гогаля. Дзеянне разгортваецца ў 70-я гады XVIII ст. вакол вядомай кожнаму незвычайнай гісторыі пра ўкраінскага хлопца Вакулу, якому давялося прайсці цяжкі і адначасова захапляльны шлях па залатыя чаравічкі, каб заваяваць сэрца каханай Аксаны, паразумецца з самім чортам, пазнаёміцца з царыцай Кацярынай II у горадзе Пецярбургу. І спектакль "Ноч на Каляды" — нібы паказ украінскага народа, сярод якога жывуць каваль Вакула (А. Бародзіч) і прыгажуня Аксана (Г. Хітрык). Рэжысёр-пастаноўшчык і аўтар інсцэніроўкі М. Пінігін звяртае ўвагу на тое, што дзеецца ў час надыходу Каляд. Моладзь святкуе, радуецца жыццю, коўзаецца на санках, лепіць снегавіка. Абавязковыя калядныя песні, скокі, гульня ў Казу-калядоўшчыцу. І сімвалы: калядная зорка, каза і чырвоны певень, які, паводле старога павер'я, прадказвае хуткае замужжа.

У пастаноўцы занята каля чатырох дзясяткаў акцёраў. Што ні вобраз — то праява творчай індывідуальнасці.



Вось чаму Аксана — шыкоўная бландзінка з доўгаю касой, а не чарнявая запарожская прыгажуня. Красуня Аксана ў выкананні Г. Хітрык хавае за сваім з'едлівым какецтвам сапраўдныя пачуцці да каваля. Фізічна дужы і адначасова душэўна датклівы Вакула ў трактоўцы А. Бародзіча. Каларытная, спешчаная мужчынскай увагай і карыслівая Салоха ў выкананні В. Няфёдавай. А галоўны баламут у спектаклі — чорт, увасоблены П. Харланчуком.

Сцэнаграфія З. Марголіна — зімовыя горы, бутафорскі снег, зорнае неба, на якім месяц-серп. Пасярэдзіне сцэны — чортава пекла, уверсе над ім — купал. У сцэне, калі Вакула выпраўляецца ў Пецярбург па чаравічкі, чорт і каваль садзяцца разам у пекла-калодзеж, і купал накрывае іх, такім чынам утвараючы… ракету, якая пад знаёмыя мелодыі нясе пасажыраў да царыцы.

Адзначу сцэну ў Пецярбургу. Тут рэжысура звяртаецца да сродкаў тэатра лялечнага: у абліччы лялек — царыца Кацярына II, Фанвізін і Пацёмкін. Сучасны рэжысёрскі ход — сцэнічнае ўзаемадзеянне драматычных акцёраў і артыстаў-лялькаводаў, не схаваных ад гледачоў за шырмай.

Бабскія сваркі, гульні моладзі, чортавы хітрыкі, гогалеўскі гумар узнімаюць настрой на працягу ўсяго дзеяння.

Заключная песня ўдзельнікаў "тэатральнай фантазіі" — пра Каляды. І перазовы царкоўных званоў гучаць як напамін гледачу пра святочнасць гэтых зімовых вечароў.

*На здымку: сцэна са спектакля "Ноч на Каляды".*

**Калісьці даўно ў мяне была цікавая вандроўка — сумесная камандзіроўка са знакамітай рускай паэтэсай Святланай Яўсеевай ад Бюро прапаганды мастацкай літаратуры. Куды мы тады камандзіраваліся, ужо не памятаю, але добра помніцца, што ў нас атрымліваўся зладжаны паэтычны дуэт, які добра прымалі слухачы нашых вершаў на шматлікіх сустрэчах, ды і мы заставаліся задаволеныя слухачамі. Што ж да мяне асабіста, дык у першую чаргу я сама была вельмі ўважлівым слухачом вершаў Святланы Георгіеўны, якая для мяне тады была жывой легендай, у якой цікава ўсё: і яе надзвычай яркі ўваход у тагачасную рускую паэзію, дзе яе лічылі адной з самых яркіх зорак у плеядзе — Андрэй Вазнясенскі, Яўген Еўтушэнка, Бэла Ахмадуліна… І тое, што яе радкі, захапляючыся, маглі цытаваць многія славутыя паэты, а галоўнае — нечаканы, на самай вяршыні ўзлёту, яе ад'езд з Масквы ў Мінск, дзе яна жыве і дасюль, ужо больш як сорак гадоў… Тады, падчас нашай камандзіроўкі, я чамусьці не асмелілася распытаць у яе пра той зоркавы маскоўскі перыяд, быццам адчувала, што змагу гэта зрабіць пасля — зусім у іншую эпоху, дзе, адпаведна, усё па-іншаму, акрамя аднаго: у кожнага паэта — свой пачатак…**



# Ясная паляна Святланы Яўсеевай

**Раіса БАРАВІКОВА**

**— Святлана Георгіеўна, якім ён быў у вас? Дзе, як, з чаго ўсё пачалося, з якой крынічкі ўзяла выток сцяжына вашай паэзіі?**

— З літаратурнага аб'яднання пры Саюзе пісьменнікаў у Ташкенце, дзе ўжо тады ў мяне было напісана некалькі вельмі моцных вершаў, якімі потым я і здзівіла Маскву. У Ташкенце я закончыла педінстытут і, вядома ж, паказвала вершы выкладчыку-беларусу, навукоўцу і пісьменніку Сцяпану Ліхадзіеўскаму, які вёў там замежную літаратуру, ад яго атрымала некалькі каштоўных парад, што трэба выхоўваць літаратурны густ, шукаць свае вобразы. Гэта і было пачаткам пэўнай літаратурнай школы, працягам якой стаў Маскоўскі літаратурны інстытут, праўда, завочнае аддзяленне, што было і не істотна. На свой творчы семінар, пазнаёміўшыся з маімі вершамі, мяне ўзяў паэт Васіль Жураўлёў як завочніцу. Гэта давала падставу застацца ў Маскве. Зняла пакой у "камуналцы" і… уладкавалася прыбіральшчыцай у выдавецтва "Молодая гвардия". Праўда, усяго на тры месяцы. У выдавецкіх кабінетах заўжды шмат творцаў. Пачала ім паказваць свае вершы, і неяк адразу мяне прынялі ў творчы асяродак, сталі дапамагаць. Булат Акуджава, які тым часам працаваў у выдавецтве, пачаў даваць рукапісы на рэцэнзіі, у рэдакцыі "Литературной газеты" сталі прапаноўваць для перакладу вершы паэтаў з рэспублік, ды і мае ўласныя ахвотна бралі ў друк. Потым пазнаёмілася з паэтам Давідам Самойлавым і па яго рэкамендацыі пачала супрацоўнічаць з часопісам "Иностранная литература". Такім чынам, я ўжо магла жыць з літаратурнага заробку. І займацца толькі літаратурай. Актыўна ўдзельнічала ў літаратурных вечарынах, куды мяне запрашалі старэйшыя пісьменнікі, і нават наведвала літаратурны салон Лілі Брык, дзе таксама чытала свае вершы. Я шмат чаму вучылася, і вучылася ў старэйшых і вельмі славутых тады паэтаў. Гэта была сапраўдная літаратурная школа, дзе і ад Барыса Слуцкага, і ад Сяргея Нараўчатава неаднойчы даводзілася чуць, што ўсе поспехі і пахвалы сённяшняга дня трэба як мага хутчэй забываць, таму што нельга таптацца на месцы, паэзія патрабуе ўсё новых і новых адкрыццяў, трэба ўвесь час рухацца наперад, быць у пошуку. Мы, маю на ўвазе сваіх равеснікаў, а гэта маглі быць і Уладзімір Сакалоў, і Тамара Жырмунская, і Яўгеній Вінакураў, ды і шмат іншых, звычайна збіраліся ў ЦДЛ і па чарзе чыталі вершы. І гэта таксама была літаратурная школа, там я навучылася па-сапраўднаму разумець паэзію.

> *Сапраўдныя беларускія пісьменнікі — таксама спартанцы, іх дзяржава — беларуская мова… Я знала і ведаю цудоўных беларускіх паэтаў, і яны — падзвіжнікі для мяне. Для іх захаваць сваю мову ў мастацкай літаратуры — гэта нават і не мэта жыцця, гэта само жыццё.*

**— Вы згадалі паэта Яўгенія Вінакурава. Здаецца, гэта яму належаць радкі: "Талантам надо помогать, бездарности пробьются сами", але ж не толькі дапамога і падтрымка патрэбны таленавітаму паэту, патрэбен яшчэ і асяродак, у якім пануе зычлівая, шчырая, па-сяброўску цёплая атмасфера. Памятаеце славутыя радкі, што "служэнне Муз не церпіць мітусні", альбо вось гэты выраз: "Калі гавораць пушкі, Музы маўчаць"? Усё, пра што вы расказвалі, сведчыць, што вас акружала вельмі спрыяльная атмасфера, якая толькі садзейнічала развіццю таленту.**

— Напэўна, гэтак… У той час усё дыхала паэзіяй. Гэтае дыханне і назвалі тады кніжным бумам. Ды і паміж самімі творцамі панавала суладдзе. Літаратурная моладзь захаплялася старэйшымі, а яны, у сваю чаргу, не шкадавалі слоў захаплення для вершаў маладых. Цяпер многае здаецца проста неверагодным. Толькі ўявіце, аднаго разу пазваніў мне Сцяпан Шчыпачоў, які тады быў старшынёй Маскоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў, папрасіў, каб зайшла да яго пазнаёміць са сваімі вершамі. І вось прыходжу, чытаю, і ў нейкі момант ён прамаўляе ўсхвалявана: "Да мяне прыйшоў цуд!"

**— Як правіла, у маладыя гады бывае шмат куміраў, і найчасцей яны са свайго ж пакалення, а да старэйшых асаблівае стаўленне: тых, каго найбольш любіш, міжволі ўзводзіш на пэўны п'едэстал. Помню, Жэня Янішчыц пісала: "Старэйшыя мае, мне з вамі добра!" Нас, маю на ўвазе сваё пакаленне, таксама вельмі падтрымлівалі старэйшыя, значыцца, верылі ў нашу паэзію, у нашыя таленты. Была ў гэтай падтрымцы нейкая магія, нават не верылася, што такое можа быць. Помню, як я першы раз пабачыла Максіма Танка, гэта было ў старым будынку СП на Энгельса. Я прыехала ў Мінск на студэнцкую практыку. І вось зварочваю ў СП у калідор і бачу… Танк! Каля дзвярэй у прыёмны пакой. У мяне літаральна ногі падкасіліся ад хвалявання, я столькі разоў школьніцай чытала яго вершы са сцэны, і вось ён тут… зусім блізка! Жывы класік! А калі ён звярнуўся да мяне, не ведала, куды падзець рукі і што адказваць, словы блыталіся… У вас ніколі не было такога моцнага ўражання ад сустрэчы з вялікім паэтам?**

— Было. У Перадзелкіне, дзе я сустрэлася з Міхаілам Святловым, які пачынаў там будаваць сваю дачу. Яна будавалася зусім недалёка ад дачы Барыса Пастарнака, які тады быў надзвычай апальным паэтам і вельмі прыцягальным для моладзі. Там, каля яго дачы, заўжды быў натоўп маладых. І вось я вазьмі ды і скажы Святлову: "А вось жа слабо зараз узяць і пайсці да апальнага Пастарнака і мяне з ім пазнаёміць?!" І Святлоў раптам зусім нечакана адказаў: "Чаму слабо? Пайшлі…" Я літаральна аслупянела… Ідзём, не запрошаныя, без папярэдняга званка. Барыс Леанідавіч сустрэў нас у хатнім халаце, але пад ім была бялюткая кашуля з накрухмаленым каўняром і манжэтамі, мяне гэта чамусьці адразу ўразіла. Вось мы прайшлі ў вялікі пакой, вось Пастарнак падышоў да піяніна, абаперся аб яго, пачаў нешта гаварыць, натхнёнае, пра літаратуру, увогуле пра мастацтва… А ў мяне галава кругам і адначасова нейкае здранцвенне, я ўся — ашаломленая: няўжо бачу і чую самога Пастарнака?!

> *Мітусня маскоўская пачала надакучваць па горла, хацелася сапраўднага дома, нарадзіць дзіця. Я пачала разумець людзей, якія пакутуюць на сутыку ўзростаў, і лёгка пагадзілася на пераезд у Мінск.*

І яшчэ была адна запамінальная сустрэча, праўда, больш спакойная, да якой я сама была падрыхтавана. Мне вельмі хацелася сустрэцца, пазнаёміцца з Ганнай Ахматавай. І Барыс Слуцкі папрасіў яе, каб яна мяне прыняла. Тэлефаную, яна запрашае да сябе. Сустрэла ў хатнім адзенні і тут жа папрасіла пачытаць вершы. Я стала чытаць любоўную лірыку, як цяпер сказалі б, "крутую", без сентыментальнасці. Паслухаўшы, яна дала ацэнку: "А мы так не пісалі!" — і я разгубілася… Потым, калі развітваліся, пацалавала — проста як Дзяржавін Пушкіна — у лоб і падарыла з аўтографам свой зборнік вершаў.

**— Святлана Георгіеўна, а вы тады кахалі ўжо вядомага ў Беларусі паэта Артура Вольскага, з якім узялі шлюб і, адпаведна, пераехалі з Масквы ў Мінск?**

— Артуру Вітальевічу я ўдзячная за безагляднасць: пабачыў мяне і пайшоў за мною… Мне здавалася, што ён вельмі надзейны. Мітусня маскоўская пачала надакучваць па горла, хацелася сапраўднага дома, нарадзіць дзіця. Я пачала разумець людзей, якія пакутуюць на сутыку ўзростаў, і лёгка пагадзілася на пераезд у Мінск. Помню, тады напісаўся верш: "...Трудиться буду неустанно, премного о себе не мня, там — «Ясная моя Поляна», прощай, Москва, любовь моя!"

**— І як жа ўсё складвалася пасля ў Мінску?**

— У мяне з'явіўся вялікі дом, надзейны муж, я нарадзіла сына… І ў той жа час зразумела, што тут свой свет, а я была створана іншым светам. І стыль літаратурнага жыцця іншы — вельмі спакойны, без таго апантанага паэтычнага бума… Для мяне настаў цяжкі час — клопат па доме, дзіця, прыйшло адчуванне, што пачала горш пісаць вершы. Ужо значна пазней, прачытаўшы безліч разумных кніг, зразумела, што большасць пісьменнікаў праходзяць праз перыяды стрэсаў, дэпрэсій, творчага ўпадку і кожны па-свойму іх пераадольвае, выходзіць з іх. Я таксама свае цяжкасці пераадолела і вынесла з іх адно вельмі важнае для сябе. Памятаеце, з гісторыі… Была такая дзяржава Спарта, якой спартанцы прысвячалі ўсё сваё жыццё. Сапраўдныя беларускія пісьменнікі — таксама спартанцы, іх дзяржава — беларуская мова… Я знала і ведаю цудоўных беларускіх паэтаў, і яны — падзвіжнікі для мяне. Для іх захаваць сваю мову ў мастацкай літаратуры — гэта нават і не мэта жыцця, гэта само жыццё. Я таксама ўключылася ў яго, праз пераклад… Пачала перакладаць Танка, пазней Купалу і Коласа, потым самых розных паэтаў — Алеся Гаруна, Ніну Тарас, Ларысу Геніюш, Ганну Новік, Васіля Вітку, Анатоля Вялюгіна, Анатоля Вярцінскага, Казіміра Камейшу, Нэлі Тулупаву і Раісу Баравікову таксама…

**— Святлана Георгіеўна, а вось сённяшнія дні нашага літаратурнага жыцця? Як вы сябе адчуваеце ў гэтых днях, якія думкі з'яўляюцца?**

— Калі пра асабістае, цяпер ёсць у мяне шмат сапраўдных вершаў, гэта аб'ёмная кніга, яшчэ не надрукаваная. Заўжды думала, што я чысты лірык, аднак аказалася, што наш час, цалкам новы і па-свойму непаўторны, можа выклікаць і такія радкі: "…Культура — глыба хрупкой Антарктиды. По ней гулять по-грубому нельзя: осердится, взрыдает от обиды и захлебнётся пропастью Земля"… Я не магу абыякава ставіцца да настырнай, вульгарнай, самаўлюбёнай непрафесійнасці. Цяпер у культуры і ў літаратуры шмат самазванцаў… Яны заўжды з'яўляюцца на сутыку розных эпох, новага і мінулага часу. Гэта можна параўнаць з падзвіжкаю маналітных зямных пластоў, у выніку чаго адбываюцца землятрусы. Самазванцы — гэта як тыя ж казнакрады: яны паразітуюць на культуры і, па вялікім рахунку, шкодныя для яе. Але час рухаецца, і самазванцы вельмі хутка сыходзяць у нябыт. Я веру, што ў маналіце новага часу народзяцца маладыя, прафесійныя і вельмі таленавітыя творцы, такія ж, як і іх папярэднікі, якія адкінуць самазванцаў і пачнуць ствараць сапраўдныя каштоўнасці, што абудзяць росквіт айчыннай культуры ва ўсіх яе сферах.

## Словакраязнаўцы



**АНАТОЛЬ ВАЛАХАНОВІЧ, даследчык гісторыі Беларусі, распавядае пра Максіма Багдановіча як пра краязнаўцу.**

— Возьмем яго верш "У вёсцы" з цыкла "Мадонны", які быў надрукаваны ў зборніку "Вянок". Максім Багдановіч апісваў у ім сялянскае жыццё з усімі яго грамадска-гістарычнымі і сацыяльнымі праблемамі, нічога не прыхарошваў, паказваў усё, як было на самай справе. Ёсць меркаванне, што ў аснову верша "У вёсцы" пакладзены рэальны факт. Летам 1911 года Максім Багдановіч жыў у фальварку Ракуцёўшчына, непадалёку ад Маладзечна, і падчас адной са сваіх пешых вандровак сустрэў дзяўчынку — "упэцканую і хілаю, і худую" — "год васьмі", якая суцяшала маленькага хлопчыка, які спалохаўся, і выцірала яму слёзкі.

Паэт прызнаваўся беларускаму гісторыку, публіцысту і пісьменніку Вацлаву Ластоўскаму: "Край беларускі — лясісты і балоцісты. Вось нам і трэба стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы". І не "алегорыю цёмных сіл", а "красу", "рытміку" і "чар" роднага краю яна ўвасабляе, якія, на думку паэта, трэба "падгледзець, знайсці і вынесці на шырокі свет". "На страніцах журналаў пачалі з'яўляцца беларускія казкі і песні, у апавяданнях з краёвага жыцця ўвесь час спатыкаюцца беларускія выразы, іншы раз гутаркі дзе-якіх асоб пераказваліся нават цалкам па-беларуску, а адсюль ужо недалёка і да чыста беларускіх твораў", — пісаў Максім Багдановіч у нарысе гісторыі беларускай пісьменнасці "За сто лет".

Харство беларускага краю — наша някідкая, шчымлівасціплая і такая мілая для паэта беларуская прырода — апетае ў творах "Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог", "Добрай ночы, зара-зараніца!", "Плакала лета, зямлю пакідаючы", "Напілося сонца са крыніц сцюдзёных", "Над возерам" і іншых. Некаторыя вытрымкі з верша "У вёсцы" яскрава сведчаць: Максім Багдановіч быў яшчэ і краязнаўцам.

## Духоўныя скарбы

# Наперадзе — новыя праекты

**Напрыканцы мінулага года ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбылася ўрачыстая прэзентацыя некалькіх праектаў, рэалізаваных дзякуючы падтрымцы кампаніі Japan Tobacco International. Хаця стылістычна яны не зусім звязаныя, але ўсе скіраваныя на вырашэнне адной мэты — захаванне і папулярызацыя гісторыка-культурнай спадчыны, а таксама той, якая ёсць у фондах гістарычнай скарбніцы нашай краіны.**

**Раіса МАРЧУК, фота Кастуся Дробава**

Альбом "Рарытэты Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь", які ўбачыў свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва", прадстаўляе шырокай публіцы каштоўныя помнікі агульнанацыянальнага значэння, якія сведчаць пра значныя падзеі і з'явы, што паўплывалі на фарміраванне нацыі, самаідэнтыфікацыю народа Беларусі. Выданне прэзентуе прадметы са збору музея, якія адносяцца да ліку рарытэтных, знешніх з гісторыяй самой установы і фарміраваннем яе калекцый.

— Мы шмат гаворым пра тое, што наша гісторыка-культурная спадчына зазнала розныя часіны, у тым ліку і ліхія, шмат гістарычных здабыткаў знікла ці трапіла за межы краіны, таму мы павінны цаніць, шанаваць, вывучаць і папулярызаваць тое, што ў нас захавалася, — зазначыў дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Сяргей Вечар. — У гэтым выданні прадстаўлены прадметы з разнастайных калекцый: археалогіі, каштоўных металаў, музычных інструментаў, беларускага народнага адзення, дакументаў… Шэраг экспанатаў, адлюстраваных у альбоме, унесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей.

Падчас вялікай імпрэзы было прадстаўлена яшчэ адно выданне — чарговы нумар "Музейнага весніка". Першы нумар зборніка навуковых работ выйшаў восем гадоў таму ў Нацыянальным гістарычным музеі. У традыцыйным ужо выданні прэзентуюцца вынікі і здабыткі навуковай дзейнасці ўстановы, музейных спецыялістаў і навукоўцаў Беларусі. Гэты зборнік — пяты, юбілейны. Частка яго асвятляе матэрыялы круглага стала, прысвечанага 130-годдзю з дня нараджэння Івана Луцкевіча і 90-годдзю заснавання Беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея ў Вільні. Зборнік ахоплівае шырокую палітру зробленага супрацоўнікамі музея: матэрыялы гістарычных даследаванняў, навуковыя канцэпцыі выставак, музейна-педагагічныя праекты, хроніку падзей, што адбываліся ва ўстанове.

Музейны збор Нацыянальнага гістарычнага — найбуйнейшы ў краіне — налічвае больш як 370 тысяч прадметаў. Для таго, каб прадставіць шырокай грамадскасці ўнікальныя экспанаты, большасці з іх патрабуецца дапамога рэстаўратараў. Так, новае жыццё было нададзена надзвычай унікальнаму экспанату — каталіцкай іконе канца XVIII ст. Адрэстаўраваная рэліквія — гэта яшчэ і ўзор народнай творчасці, рэдкі экзэмпляр беларускага рэлігійнага мастацтва.

Абраз двухбаковы. На адным баку — выява святога Іосіфа ў поўны рост, на другім — паясная выява Маці Божай. Ікона датуецца 1789 годам, паходзіць з вёскі Міратычы Навагрудскага раёна, а паступіла ў музей у 1976-м з Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Рэстаўрацыю выканаў мастак Белрэстаўрацыі Уладзімір Нікіцін. Рарытэт зойме належнае месца ў новай гістарычнай экспазіцыі, а да 28 студзеня яго можна ўбачыць у выставачнай зале музея.

Падчас прэзентацыі былі прадстаўлены жывапісныя копіі партрэтаў са знакамітага Радзівілаўскага збору, які ўяўляе сабой калекцыю партрэтаў прадстаўнікоў роду, вядомых палітычных і дзяржаўных дзеячаў. Заснаваў гэту калекцыю яшчэ Мікалай Крыштаф Сіротка (1549 — 1616) напрыканцы XVI ст. На працягу некалькіх стагоддзяў і да 1939 года Радзівілаўскі збор удакладняўся і пашыраўся. У Нацыянальным гістарычным захоўваецца толькі частка партрэтаў. На жаль, час экспанавання жывапісных твораў абмежаваны. Для таго, каб "даць адпачыць" арыгіналам, былі створаны прафесійныя копіі карцін. Яны на пэўны час заменяць рарытэты ў экспазіцыі. Падрыхтавана дзевяць копій, сярод якіх партрэт Войшунда – міфічнага пачынальніка роду Радзівілаў, караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III, гетмана Канстанціна Астрожскага і інш. Копіі выканалі членамі Беларускага Саюза мастакоў Сяргеем Лагуновічам-Чарэпкам, Надзеяй Лівенцавай і Віктарам Варанкевічам.







Узаемадзеянне паміж кампаніяй JTI і Нацыянальным гістарычным музеем — значны дадатак да шэрагу буйнамаштабных міжнародных праектаў. Прынамсі, кампанія аказвае шматгадовую падтрымку Дзяржаўнаму Эрмітажу і Дзяржаўнаму музею выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна ў Расіі, Луўру ў Францыі і музею Прада ў Іспаніі.

— Бясспрэчна, у 2012 годзе мы прадоўжым нашае цеснае супрацоўніцтва з Нацыянальным гістарычным музеем, а гэта значыць, што нас з вамі чакаюць новыя і цікавыя сустрэчы з гісторыка-культурнай спадчынай, — зазначыў дырэктар Джапан Табакка Інтэрнэшнл ЭсЭндДзі кампаніі JTI Генадзь Бруснікоў.

***На здымках: каталіцкі абраз канца XVIII ст.; Генадзь Бруснікоў прадстаўляе альбом "Рарытэты Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь".***

## Прасы-рарытэты

**Бажэна СТРОК**

Самую вялікую ў нашай краіне калекцыю прасаў сабраў прыватны калекцыянер Леанід Вечар. За дзесяць апошніх гадоў жыхар Слуцка займеў больш як 450 рарытэтаў, выраблены калісьці ў Расіі, Галандыі, Польшчы, Вялікабрытаніі, ва Украіне. Шмат экспанатаў знайшлося і ў Беларусі. Аднойчы, завітаўшы ў Слуцкі краязнаўчы музей, Леанід прыкмеціў дзівосныя страдаўнія рэчы і загарэўся ідэяй стварыць уласную калекцыю рарытэтаў. Сёння случанін можа прадэманстраваць вугальныя і наплітныя прасы, чыгунныя і мініяцюрныя, бронзавыя і жалезныя… Самы стараднаўні, латунны, датуецца 1827 годам і набыты ў Клецку. Пошук экспанатаў не спыняецца.

## Пуцявіны

# Захаваў лёс

**Юрась КАМЯГІН, краязнаўца**

**Аднойчы вядомы кіргізскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў сказаў: "Лёс захаваў нам Васіля Быкава, каб ён жыў і пісаў ад імя цэлага пакалення". І сапраўды: пісьменнік прайшоў праз усе ваенныя выпрабаванні. Быццам бы нейкая дзівосная сіла адводзіла ад яго кулі і асколкі.**

Памятаеце аповесць "Жураўліны крык"? Баец Глечык у фінале застаецца адзін на чыгуначным пераездзе і рыхтуецца сустрэць агнём ворага. Што чакае яго ў наступныя імгненні? Смерць? Палон? Эпізод, апісаны Быкавым, адбываўся на вайне неадназоразова. Вось і гарачым ліпеньскім днём 1941 года непадалёку ад Магілёва прыкрываў адыход сваіх таварышаў радавы 24-й стралковай дывізіі. Адстрэльваўся да апошняга, параненны трапіў у палон. Пачаўся доўгі і пакутніцкі шлях байца ў няволі. Спачатку яго трымалі каля Магілёва, потым адвезлі ў лагер ваеннапалонных у Гродна. Але і там салдат не затрымаўся. У рэшце рэшт трапіў у Асвенцым. Адтуль ужо выйсця не было. Праз некалькі месяцаў чырвонаармеец памёр ад голаду і знясілення. Яго звалі Васілём Уладзіміравічам Быкавым. Нарадзіўся ў 1916 годзе ў вёсцы Старая Парубежка Саратаўскай вобласці і ўвесь час жыў у сціплым краі. Адсюль у маі 1941-га хлопца прызвалі ў армію, трапіў служыць на беларускую зямлю.

А вось другі выпадак. У студзені 1944 года нашага слаўнага земляка палічылі забітым у баі, які праходзіў непадалёку ад вёскі Вялікая Севярынка Кіраваградскай вобласці. Нават даслалі бацькам пахавальны ліст. На шчасце, Васіль Быкаў быў толькі паранены і трапіў у шпіталь. А яго баявыя таварышы рушылі далей на захад. Калі б не гэтае здарэнне, Васіль Уладзіміравіч ваяваў бы разам з імі і, магчыма, яму давялося б вызваляць ад немцаў Севастопаль. Аднак адбылося інакш, і ў гэтым горадзе змагаліся іншыя. 9 мая 1944 года, якраз у той дзень, калі ворага канчаткова выбілі з Севастопаля, на ўскраіне горада загінуў ураджэнец пасёлка Ліменда Котласкага раёна Архангельскай вобласці сяржант Васіль Уладзіміравіч Быкаў.

У чэрвені 1944 года падчас славутай аперацыі "Баграціён" на віцебскай зямлі ваяваў сяржант 1679-га артылерыйска-мінамётнага палка Васіль Уладзіміравіч Быкаў. Ен нарадзіўся ў 1921 годзе за тысячы кіламетраў ад Беларусі, у далёкім сібірскім горадзе Томску. На фронце — з 1942-га, быў двойчы паранены, але пасля лячэння ў шпіталях вяртаўся зноў у строй. 26 чэрвеня 1944 года стала для яго апошнім днём. Сяржант-артылерыст загінуў каля вёскі Пурплева Сенненскага раёна Віцебскай вобласці, там яго і пахавалі.

Яго ж знакаміты цёзка з суседняй Ушаччыны вярнуўся пасля Перамогі дамоў і напісаў праўду пра вайну, на якой яму пашчасціла выжыць.

Ігнат ШЫЧКО

# Узгадваючы Стаброўскага

**Сёння імёны Іосіфа Стаброўскага і Сяргея Новіка-Пеюна добра вядомыя ў гісторыі беларускай культуры. Першы — археолаг, краязнавец, заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея. Другі — пісьменнік, які ў пярэдадзень Вялікай Айчыннай вайны быў дырэктарам згаданага музея, сябар Стаброўскага. Заслугі абодвух руплівых збіральнікаў памяткаў гісторыі і культуры Айчыны неаднойчы былі засведчаны, апісаны, у тым ліку — і ў персанальных артыкулах у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". А між тым не ўсё проста складвалася ў ранейшыя дзесяцігоддзі з ушанаваннем І. Стаброўскага, прызнаннем яго здабыткаў на краязнаўчай, музейнай ніве.**

Памёр Іосіф Іосіфавіч 15 студзеня 1968 года на 99-м годзе жыцця. Пахавалі краязнаўцу ў вёсцы Арловічы, землі якой некалі належалі роду Стаброўскіх. А вось далей…

Тэлеграму пра смерць свайго старэйшага таварыша Сяргей Міхайлавіч атрымаў у той самы трагічны дзень — 15 студзеня. Хуценька выправіўся з Мінска і раніцай наступнага дня быў у Слоніме. З сабою прывёз і ліст да рэдактара газеты "За перамогу камунізма" Фёдара Ганчара: "Паважаны тав. рэдактар! Вельмі прашу змясціць на старонках газеты "За перамогу камунізма" некралог "Памяці І. І. Стаброўскага", які да гэтага далучаю. З павагаю, Сяргей Новік-Пяюн. г. Мінск, 15 студзеня 1968 года. Мой адрас: Новик-Пеюн Сергей Михайлович, Минск-36, Куприянова, 9 — 108. Тэлефон: 25-00-63".

У архіве пісьменніка застаўся тэкст ліста і некралог. На копіі Сяргей Міхайлавіч надрукаваў "заўвагу": "Калі я прыехаў у Слонім да Стаброўскага, папрасіў дачку Іосіфа Іосіфавіча Дзіляру Іосіфаўну Стаброўскую аднесці некралог у рэдакцыю газеты "За перамогу камунізма". Яна пайшла разам са сваёй сяброўкай (прозвішча не ведаю). Хутка яны вярнуліся і паведамілі, што рэдактара не засталі і яны падалі некралог супрацоўніку рэдакцыі, які сказаў, што "друкаваць не будуць"… І некралог надрукаваны не быў".

Пахавалі археолага і краязнаўцу ціха, без музыкі. Труну з целам нябожчыка правезлі міма будынка музея. Жыхары вёскі Арловічы, даведаўшыся пра смерць Іосіфа Іосіфавіча, вырашылі пахаваць земляка на кургане, на бацькоўскай зямлі. На ўскраіне Арловіч вяскоўцы сустрэлі аўтобус і неслі труну тры кіламетры на руках. Мароз не адчуваўся.

Некралог Сяргей Міхайлавіч усё ж надрукаваў. У газеце польскіх беларусаў "Ніва" — 11 лютага 1968 года.

У некаторай ступені стаўленне да памяці пра Стаброўскага пачало змяняцца пасля публікацыі 24 студзеня 1971 г. у "Сельской газете" (цяпер — "Белорусская нива") грунтоўнага нарыса "Всё осталось людям". Аўтары — ужо вядомыя на той час журналісты Іосіф Калюта і Аляксандр Шабалін. Публікацыя выклікала шырокі розгалас. І ўжо напрыканцы сакавіка газета друкуе вялікую падборку чытацкіх лістоў. Аўтары дапісаў у газету — далёка не выпадковыя людзі: вядомы археолаг Л. Аляксееў, генерал-лейтэнант інжынерных войск, ганаровы грамадзянін Слоніма Я. Леашэня, дырэктар Чапялёўскага народнага краязнаўчага музея Салігорскага раёна В. Ванчукевіч, супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР А. Ліс, прарэктар Гродзенскага педагагічнага інстытута, доктар гістарычных навук, прафесар Б. Фіх, згаданы ўжо С. Новік-Пяюн (яго пазначылі як былога дырэктара Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея). У падборцы "След на земле" быў надрукаваны і ліст урача А. Гутарэвіча. Два абзацы. У арыгінале, які мне прадставіў Іосіф Калюта, — тэкст больш шырокі. Таму дазволю сабе працытаваць пісьмо Яўгена Гутарэвіча, медыцынскага работніка з Львова, цалкам, без зразумелых на той, 1971 года, час купюр. Вось што піша карэспандэнт з Украіны: "В «Сельской газете» от 24 января 1971 г. № 20 я прочитал Ваш великолепный очерк, посвящённый основателю Слонимского музея, Иосифу Иосифовичу Стабровскому. Признаюсь, я был приятно поражён и взволнован Вашей статьёй, в кратких и красиво выраженных словах описывающей жизнь Иосифа Иосифовича.

Ведь этот человек всю свою жизнь посвятил службе народу, думая о его благополучии и считая своей родиной ту страну, в которой он родился и вырос.

Тем более обидно, что память о нём ушла вместе с ним… Известие о том, что из Слонимского музея удалён его портрет, просто поразило меня, главным образом бестактным и никчемным поведением сегодняшних руководителей музея и общественности, которая, к сожалению, не среагировала на это явление.

Я внимательно слежу за этими скудными заметками, касающимися деятельности Иосифа Иосифовича и периодически появляющимися в белорусской прессе, как "Старонкі аднаго жыцця" М. Рылко в журнале "Маладосць", "Дарагая памяць сэрца" М. Рылко в 18 номере "Голаса Радзімы", поэта Новика-Пеюна С. М. в журнале (трэба: газеце. — **І. Ш.**) "Ніва" № 6 в 1968 г. и другими.

Обиднее всего, что в местной газете "За перамогу камунизма" не было написано ни слова товарищами из местных партийных и административных органов. А ведь И. И. Стабровский для масштаба Слонима, пожалуй, был личностью весьма заслуживающей внимания и уважения. В газете появился некролог сотрудников его дочери Диляры Иосифовны, работающей медсестрой в местном тубдиспансере.

Иосиф Иосифович был чрезвычайно скрытным человеком. Всё,

> *Акрамя афіцыйнага прызнання заўсёды існуе грамадская ацэнка. Часам яна адыгрывае вельмі істотную ролю. Так здарылася і ў выпадку з ушанаваннем памяці пра Іосіфа Стаброўскага. Але дапамаглі абудзіцца гэтай грамадскай думцы два нераўнадушныя, неабыякавыя да гістарычнай памяці Айчыны чалавекі, два журналісты.*

что он имел, он ещё задолго до освобождения Белоруссии раздал крестьянам, другом которых был до последнего момента своей жизни. И надо признать, что они помнили о нём и когда он умер, именно они похоронили своего "деда Осипа" в Орловичах, отдав ему должную честь.

Последний раз я встречался с Иосифом Иосифовичем в августе 1959 года. Мы долго беседовали на темы Слонимского музея, раскопок, его путешествий. С ним никогда не было скучно. Иосиф Иосифович много работал, готовил к печати свои труды, делал записи. Он имел много старинных книг, которые показывал мне с любовью, рассказывая о их происхождении и содержании. Я тогда сделал несколько снимков, два из которых посылаю вам для использования (безвозвратно).

Мы всё время обменивались короткими письмами и поздравительными карточками на все праздничные дни. На ноябрьские праздники 1967 г. я получил от него кратенькое поздравительное письмо, с заметкой: "Мне тяжело писать, болезнь мучает меня. Видно, скоро конец…" В ответ я написал длинное письмо, успокаивая его и обещая приехать на юбилейные торжества по поводу 100-летия. Ответа на письмо я уже не получил. 17 января (насамрэч 15 студзеня. — **І. Ш.**) 1968 года Иосифа Иосифовича не стало. На его похоронах я не был: слишком поздно узнал о его смерти. Но память о нём всегда сохранится в моей душе, как о человеке удивительной прямоты и честности, высокой культуры, большого ума, чрезвычайной трудоспособности и прекрасной души.

Умер большой исследователь и учёный. К сожалению, при жизни — непризнанный.

И вот, прочитав Ваш, дорогие товарищи, очерк, я увидел, что всё-таки есть люди, которые интересуются памятью Иосифа Иосифовича и напоминают людям о том, который почти сто лет посвятил своему народу, работая бескорыстно во имя Науки, перенося многие невзгоды при панской Польше, гитлеровской оккупации и ещё во многих моментах своей жизни.

Честь и слава Его памяти!

С приветом, Е. А. Гуторевич".

Ліст львоўскага ўрача ў многім паказальны. Ён нагадаў пра тое, што, акрамя афіцыйнага прызнання, заўсёды існуе грамадская ацэнка. Часам яна адыгрывае вельмі істотную ролю. Так здарылася і ў выпадку з ушанаваннем памяці пра Іосіфа Стаброўскага. Але дапамаглі абудзіцца гэтай грамадскай думцы два нераўнадушныя, неабыякавыя да гістарычнай памяці Айчыны чалавекі, два журналісты. Аляксандр Шабалін у хуткім часе пасля тае публікацыі перайшоў на працу ў ЦК КПБ, быў памочнікам сакратара ЦК. У 1978-м А. Шабаліна прызначылі галоўным рэдактарам часопіса "Беларусь". Выдаў шэраг кніг. У суаўтарстве з У. Ампілавым напісаў кінасцэнарый мастацкага фільма "Агонь на сябе", дзе была дадзена ацэнка злачынным метадам меліярацыі на Палессі. Іосіф Калюта пасля "Сельской газеты" працаваў у "Народнай газеце", часопісах "Беларуская думка", "Беларусь". І цяпер часта выступае ў друку.

…А што да некралога, напісанага Сяргеем Новікам-Пеюном, то нічога ў ім, здаецца, не было такога, што магло б парушыць пазіцыі тагачаснай партыйнай улады. Вось тэкст — "Памяці І. І. Стаброўскага": "15 студзеня 1968 года на 99-м годзе жыцця ў горадзе Слоніме памёр Іосіф Іосіфавіч Стаброўскі, археолаг, заснавальнік Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея.

Восенню 1924 года Іосіф Іосіфавіч Стаброўскі арганізаваў у Слоніме выстаўку старадаўніх дакументаў і кніг, якія ён збіраў больш як паўстагоддзя. Выстаўка выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва сярод школьнай моладзі. Пасля яе закрыцця ўвесь сабраны археалагічны матэрыял і каштоўную калекцыю вырабаў каменнага веку Стаброўскі паклаў у аснову гістарычна-краязнаўчага музея.

У верасні 1939 года, калі ў Слоніме ўстанавілася савецкая ўлада, музей перайшоў на дзяржаўнае ўтрыманне. Ён узбагаціўся каштоўнымі калекцыямі — мінералагічнай і палеанталагічнай, выстаўкамі навуковага атэізму, гісторыі СССР, карцінамі, нумізматычным, этнаграфічным матэрыялам і шматлікімі іншымі экспанатамі.

У час Вялікай Айчыннай вайны фашысцкія вылюдкі знішчылі вялікую колькасць экспанатаў. Аднак Стаброўскаму ўдалося схаваць шмат матэрыялаў і некалькі тысяч тамоў савецкай літаратуры, якія экспануюцца цяпер у музеі, што існуе ўжо 45-ы год.

Іосіф Іосіфавіч Стаброўскі да апошніх дзён свайго жыцця працягваў цікавіцца дзейнасцю і лёсам свайго дзецішча — Слонімскага гістарычна-краязнаўчага музея, які будзе вечным помнікам свайму заснавальніку".

Мо раённыя журналісты былі добра праінфармаваны пра лёс аўтара — шматгадовага вязня сталінскіх лагераў, паэта, які і пры палаках адседзеў, і фашысцкі канцлагер прайшоў?.. А мо наадварот — не ведалі?..

## Да ведама

Мікола БЕРЛЕЖ

# Паранены Чарнобылем раён

**У РВУ "Літаратура і Мастацтва" пабачыла свет гісторыка-дакументальная хроніка "Памяць Чарнобыля", прысвечаная Хойніцкаму раёну.**

10 снежня 2004 года Хойніцкім райвыканкамам было прынята рашэнне № 1049 "Аб стварэнні музея ў былой Дварышчанскай СШ". А ў кастрычніку 2006 года яшчэ адно рашэнне — перавод музея ў аграгарадок Судкова. 16 мая наступнага года былі адчынены дзверы скарбніцы памяці пра трагедыю, што здарылася 26 красавіка 1986 года, пра тых людзей, хто першымі зірнулі бядзе ў твар, пра лёсы перасяленцаў з вёсак Хойнічччыны. Кіруе работай музея Валянціна Гацко, якая на свае вочы бачыла ўсе падзеі 1986 года, працавала ў той жахлівы час інспектарам аддзела адукацыі райвыканкама. Сёння ў пяці выставачных пакоях музея "Трагедыя Чарнобыля" знаходзіцца больш як 2300 экспанатаў.

— У дзейнасці музея асноўныя з'яўляюцца навукова-даследчы і сістэматызацыйны кірункі, — расказвае Валянціна Апанасаўна, — а таксама работа па збору матэрыялаў у межах галоўных праектаў: "Чарнобыль — вечная памяць і трагедыя Беларусі", "Этнаграфія і гісторыя адселеных вёсак", "Сувязь з блізкім і далёкім замежжам", "Насуперак Чарнобылю жыве і працуе Беларусь".

Плён сваіх музейных, краязнаўчых росшукаў В. Гацко абагульніла ў цікавай працы "Памяць Чарнобыля", якая пабачыла свет кнігай дзякуючы фінансавай падтрымцы Праграмы развіцця ААН у рамках выканання Міжнароднага праекта тэхнічнай дапамогі "Развіццё міжнароднай даследчыцкай і інфармацыйнай сеткі па Чарнобылі (JCRIN). Вельмі часта, расказваючы пра 1986-ы і наступныя гады, аўтар звяртаецца да літаратурна-мастацкіх памятак. Сваё слова пра Чарнобыльскую бяду сказалі паэты Мікола Мятліцкі, Ала Канапелька, празаікі, публіцысты Барыс Сачанка, Арсен Сакун, Дзмітрый Дземічаў і інш. Іх кнігі — у музейнай экспазіцыі на самым ганаровым месцы. Расказвае аўтар гісторыка-дакументальнай хронікі пра работу ў 1986 годзе хойніцкай журналісткі Клаўдзіі Босак, якую ў 1987 за актыўны ўдзел у ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС узнагародзілі ордэнам Дружбы народаў. Згадвае В. Гацко і Валянціна Ігнатавіча Баранава (у 1986-м ён працаваў загадчыкам аргаізацыйнага аддзела Хойніцкага райкама КПБ), які шмат садзейнічаў стварэнню музея "Трагедыя Чарнобыля", напісаў кнігу "Попел Чарнобыля стукае ў сэрцы".

Неаднойчы наведваў паслячарнобыльскі хойніцкі край Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Лейтматыў многіх старонак кнігі — жаданне паказаць мужнасць, перакананні тых людзей, якія сёння жывуць у Хойніках і ваколіцах. Вось што, у прыватнасці, гаворыць старшыня Хойніцкага райвыканкама Аляксандр Васільевіч Бічан: "Для нас сёння галоўнае — годна жыць і працаваць, нягледзячы на тое, што наступствы чарнобыльскай бяды даводзіцца адольваць да гэтай пары. Людзі, што засталіся тут і не з'ехалі, зрабілі свой выбар — працаваць і жыць на роднай зямлі. Важна стварыць для іх нармальныя ўмовы".




Кніга В. Гацко "Памяць Чарнобыля" ўвабрала ў сябе шмат інфармацыі і пра адселеныя вёскі Хойніцкага раёна, іх гісторыю, пра лёсы ўраджэнцаў Бабчына, Краснаселля, Хвашчоўкі, Арэвічаў, Баршчоўкі, Кажушкоў і іншых паселішчаў. Гісторыка-дакументальная хроніка Хойнічыны ў звязку з чарнобыльскай тэмай — добры ўнёсак у гомельскую краязнаўчую бібліятэку.

**Вось і зноў у дзверы стукаецца Каляда. Крочаць вясковай вуліцай пераапранутыя жанчыны і мужчыны, дзеці, моладзь. Колькі намаганняў прыклалі, каб знішчыць памяць пра любімае свята славян, але гэта аказалася не пад сілу. І сёння не рэдкасць сустрэць Каляду нават у гарадской шматпавярхоўцы. Старадаўняя традыцыя жыве і радуе людзей.**

# Калядныя казкі



**Ірына ТОРБІНА,**
**фота аўтара**

Амаль у кожнай сям'і на Чашнічыне, што на паўднёвым усходзе Беларусі, захаваліся ўспаміны пра тое, як святкавалі продкі. Не толькі пра багаты стол дбалі. Калядкі складалі, адзенне рыхтавалі, хату прыбіралі. Шмат чаго ладзілі да Каляд: ткалі, вышывалі, саломку плялі, з гліны ляпілі. Цяперашнія народныя майстры, хоць і жывуць часта далёка ад вёскі, вывучаюць і выкарыстоўваюць вопыт продкаў. У выставачнай зале раённага Дома рамёстваў знайсці такія вырабы няцяжка.

Некалькі год таму раптоўна пайшла з жыцця майстар Наталля Паддубная. Маладая жанчына перавагу ў сваіх захапленнях аддавала ткацтву. Яе працавітыя рукі зрабілі не адзін дзясятак метраў прыгожага даматканага палатна. Да Каляд рыхтавала ручнікі. Адзін з іх напярэдадні свята ўпрыгожвае вітрыну. На белым фоне чатыры радкі традыцыйнага аздаблення. Першы сімвалізуе застолле. У другім — певень, птушка, што асабліва шануецца праваслаўнымі, ён нават дазваляўся хадзіць пад іконамі. Трэці радок — салярныя знакі, чацвёрты — фігуркі Каляды. Менавіта такімі ручнікамі ўпрыгожвалі хату на свята.

Дырэктар Дома рамёстваў Ларыса Варчэня — саломапляцельшчыца са стажам. У яе творчасці шмат ад культуры Каляд як з усходу, так і з захаду Беларусі. Адзін з любімых вырабаў — саламяны анёл, вястун багоў. Продкі верылі, што ён прыносіць у хату паразуменне, гармонію, спрыяе надзеям на лепшае. Майстар мае цэлую калекцыю анёлаў. Да іх стварэння — розныя падыходы. Фігуркі аздоблены рознакаляровай саломкай і тканінай. Кожны колер мае сваё значэнне. Асаблівую ўвагу надае аўтар форме і памеру крылаў. Дзякуючы творчаму пошуку героі атрымліваюцца не падобнымі адзін да аднаго і вельмі цікавымі. І колькі б у іх ні ўглядаўся — кожны раз адшукваеш нешта новае.

Шмат працуе Л. Варчэня над калляднымі маскамі. Мядзведзь, Каза — гумарыстычныя персанажы калядных гульняў — яе героі. Маска-твар з рысамі сапраўднага гаспадара, якому не патрэбны ніякія рэкамендацыі, — вядома ж, Мядзведзь. А якое свята без Казы?! У славян гэта знак радасці, дабрабыту, шчодрасці. Ёсць у майстра цікавая задумка — стварыць галерэю саламяных персанажаў каляднай тэматыкі ў поўны рост. І пакрысе яна здзяйсняецца. У рабочым кабінеце Л. Варчэні падсыхае каркас будучага Мішкі-балалаечніка. Балалайка, дарэчы, яго ўжо чакае. Музычны інструмент з саломкі нават паспеў з'ездзіць на Славянскі базар і ўразіць гасцей-расіян.



У майстра-кераміста Святланы Арэхавай таксама маецца невялікая калядная калекцыя фаянсавых анёлаў. Жанчына лічыць, што менавіта гэты матэрыял найбольш здольны перадаць узвышанасць і чысціню вобразаў. Невялічкія белыя фігуркі сапраўды нагадваюць нябесныя стварэнні.

Кожны народны майстар на Чашнічыне мае хоць некалькі рэчаў, зробленых да любімага свята. Усё разам — бясконцая калядная казка, якую можна прачытаць на палатне, паперы, дрэве ці шкле.

***На здымках: анёл, выраблены Ларысай Варчэняй; фаянсавыя анёлы Святланы Арэхавай.***

# Чароўная нітка душы

**Галіна РАМАНЧУК,**
**фота аўтара**

**Высокая, абаяльная жанчына са светлым поглядам бяздонных вачэй і мяккай сціплай усмешкай непрыкметна акунула мяне ў свет прыгажосці, створанай цеплынёй душы і здольнымі рукамі. Ад яе карцін-вышыванак, выстаўленых у Бераставіцкай дзіцячай школе мастацтваў, праменіла святло, супакойвалася душа, шматгалосы навакольны свет ахінаў пяшчотай.**



***На здымку: Вера Лукашэвіч і яе работа "Коні".***

Гэта не першая выстаўка народнага майстра Веры Лукашэвіч. Яе вышыванкі ўпрыгожвалі розныя фестывалі, у тым ліку і фестываль Нацыянальных культур, "Дажынкі", імі цешыліся ўдзячныя наведвальнікі выставак у суседняй Польшчы.

Гэтай выстаўцы Вера Рыгораўна аддала больш як дваццаць сваіх работ — каларыстых і непаўторных. Вось букет агністых руж — першая яе карціна — быццам іграе ўмела падабранымі сакавітымі ніткамі. У вышыванцы "Браткі" трынаццаць самых розных па колеры зіхоткіх кветачак, не падобных адна на адну.

— Вышыўка займае шмат часу, бывае, паўгода, усё залежыць ад настрою і натхнення. Вось карціну "Коні" стварала два месяцы, — распавядае майстрыха.

Гэта проста незвычайная работа! Вера Рыгораўна так перадала тонкасць дэталяў, што коні быццам жывыя, здаецца, вось-вось абдадуць пырскамі чыстай вады з-пад капытоў, а з-за сініх аблокаў выгляне чаканае сонца.

У кожнай карціне — свой душэўны настрой, свая гама пачуццяў і фантазія. Бывае, на выстаўках наведвальнікі нават дакранаюцца да карцін рукой, думаюць, што вышыўка пад шклом: так пяшчотна і лірычна адлюстроўвае на палатне майстрыха розныя сюжэты. У гэтым жывапісе іголкай з кожнай работай удасканальваецца тэхніка, больш трапна перадаецца каларыт фарбаў.

Дарэчы, упершыню да кожнай сваёй работы Вера Рыгораўна падабрала вершаваныя радкі любімых аўтараў, што яшчэ больш яскрава адлюстроўвае кожны вобраз.

— А ці ёсць любімая работа? — цікаўлюся ў жанчыны.

— Яны мне ўсе дарагія, я проста адпачываю душой за вышыўкай, але найбольш прыцягвае карціна з ружамі, хаця лічу, што найлепшае яшчэ наперадзе. У нашым доме кожная карціна мае сваё месца, і калі яны на выстаўках — пуста, быццам чагосьці не хапае.

Здаецца, начальніку вытворча-планавага аддзела ў Бераставіцкай ПМК не да творчасці. Але Вера Рыгораўна лічыць, што яе асноўная праца і захапленне мастацкай вышыўкай — адно цэлае. Бо чалавек стварае прыгажосць не толькі на палатне, але і на будаўнічым аб'екце, трэба толькі ўкласці душу.

Захапленне майстрыхі падзяляюць дарослыя дочкі, якія таксама ўпрыгожваюць сваё жыллё вышыванкамі. Яна ж марыць: вось падрасце ўнучка Янчка і, магчыма, створыць уласны шэдэўр.

## З глыбінкі

# Памяць — працяг справы

У Лунінцы літаратурна-краязнаўчая праграма ў сёмы раз сабрала тых, хто шануе мінулае роднага краю і захапляецца выдатнымі дасягненнямі сучаснікаў. Гэтыя сустрэчы прысвячаюцца пачынальніку лунінецкага краязнаўства, пісьменніку Мікалаю Калінковічу (1950 — 1990). Праходзяць яны ў снежні, напярэдадні нараджэння нашага земляка, што амаль супадае з прафесійным святам супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі, дзе ён служыў.

Лунінецкае аддзяленне УКДБ па Брэсцкай вобласці ўстанавіла Дыплом Памяці М. Калінковіча. Сёлета ўзнагароднай адзначана настаўніца Лунінецкага ліцэя Валянціна Казун, якая разам з вучнямі стварыла цудоўны краязнаўчы музей. Традыцыяй штогадовай сустрэчы стала ўшанаванне пераможцаў конкурсу чытальнікаў вершаў краязнаўчай тэматыкі. За выдатнае мастацкае чытанне дыплом уручаны вучаніцы Вялікачучавіцкай СШ Марыне Гаргун і яе настаўніцы Розе Кірыені.

Дыпломам Памяці М. Калінковіча ўзнагароджваюцца таксама педагогі, якія імкнуцца далучыць вучняў да здаровага ладу жыцця. У мінулым годзе адзначана Надзея Богдан. Сустрэчы, прысвечаныя М. Калінковічу, мы называем "Лунінецкая памяць", выдатна ўсведамляючы: жаданне шчыраваць на плён малой радзімы сёння пачынаецца з гонару за тых, хто працаваў дзеля дабрабыту і росквіту сваёй сям'і, сваёй зямлі, сваёй Айчыны.

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ,**
**г. Лунінец**

# Закаханы ў Палессе

Палескі край шчодры на таленавітых, адданых сваёй справе людзей. Адзін з іх — Алесь Бібіцкі. Гэтае імя шмат значыць для Піншчыны. Самабытны, яркі паэт пакінуў спадчыну, якая прасякнута бязмежнай любоўю да рупліўцаў-палешукоў.

Літаратурная вечарына, прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння Алеся Іванавіча, адбылася ў Калавуравіцкай сярэдняй школе, дзе ён настаўнічаў. Ва ўтульнай зале сабраліся людзі, якія былі сябрамі, аднадумцамі Алеся Іванавіча, а таксама літаратары, настаўнікі і вучні, мясцовыя жыхары.

Свята адкрыў старшыня Калавуравіцкага сельвыканкама У. Наўныка, ён сказаў нямала цёплых слоў пра Алеся Бібіцкага, які, на жаль, не дажыў да гэтых гадоў.

Сваімі ўспамінамі пра паэта падзяліўся дырэктар Калавуравіцкай школы Я. Вакуліч. У школе шмат робіцца для таго, каб зберагчы памяць пра Алеся Іванавіча. Так, у музеі належнае месца адведзена экспанатам, звязаным з яго жыццём і творчасцю. Расце каля школы алея, якую пасадзіў сам паэт. Яе так і называюць — алея Алеся Бібіцкага.

Завіталі на свята і госці: пісьменнік М. Елянеўскі, былы намеснік дырэктара Плошчаўскай базавай школы У. Зянюціч, навуковы супрацоўнік Лапацінскай бібліятэкі-музея імя Аляксандра Блока М. Жукаў і маладая паэтэса з вёскі Валішча Марыя Кобец.

**Наталля МІЛЕЎСКАЯ,**
**Пінскі раён**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2855
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 5.01.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 44
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686